# БАЙРАМ




## ТАТАРЫ
## НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

3. 1992

БІСМІ АЛЛАГІ АР-РАГМАНІ АР-РАГІМ

# БАЙРАМ

## ТАТАРЫ НА ЗЯМЛІ БЕЛАРУСІ

КВАРТАЛЬНІК
ЗГУРТАВАННЯ ТАТАРАЎ-МУСУЛЬМАН НА БЕЛАРУСІ
("АЛЬ-КІТАБ")

3

МЕНСК 1992

Згуртаванню татараў-мусульман на Беларусі ("Аль-Кітаб") вялікую дапамогу аказалі спадарыні і спадары:

А.Александровіч,
І.Александровіч,
Р.Александровіч,
Б.Аляксандраў,
Э.Ассановіч
Х.Басьюні,
А.Болсун,
І.Варановіч,
Р.Вянцкоўскі,
Г.Гаджыеў,
Р.Гамзовіч,
Я.Ждановіч,
В.Каліноўскі,
Л.Канарская,
М.Клімковіч,
А.Люты,
С.Макаёнак,
А.Мальдзіс,
М.Марц"янаў,
І.Меметаў,
А.Міськевіч,
Н.Мурзіч,
Т.Муха,
Л.Папова,
В.Порахава,
Р.Сабалеўскі,
Ф.Фаізаў,
Г.Фатыхава,
А.Філіпёнак,
А.Халембек,
П.Церашковіч.

Матэрыяльную дапамогу аказалі нам браты-мусульмане з замежных краін.

Гэты нумар "Байрама" надрукаваны за кошт нашых добрых сяброў — Яна Запрудніка ( ЗША ) і Паўля Сутэра ( Швейцарыя ).

Прыміце татарскі рахмат і глыбокую пашану.

---

Тыраж 300 экз. Фармат 60 х 84 I/16
Ум. друк. арк. 4,5
Надрукавана у Гародні

Салям алейкум, спадарыні і спадары,

супляменнікі-татары і браты-мусульмане !

Мінула незвычайнае лета і прыйшла звычайная восень. Запомніцца надоўга спякота, пажары ў лясах і на тарфяных балотах, доўгія, вельмі доўгія канікулы нашых абраннікаў — дэпутатаў Вярхоўнага Савета Беларусі.

Прэзідэнт вялікай усходняй дзяржавы двойчы ў дзесяць разоў павышаў цэны, заклікаючы ў той жа час яшчэ крышачку пацярпець. Павышэнне цэнаў на паліва, метал, збожжа выклікалі пагаршэнне і нашага становішча. Старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі суцяшае нас тым, што жывецца ў нас людзям яшчэ намнога лепш, чым у іншых краінах СНД. Калі ж яшчэ пагоршае жыццё, то застанецца для параўнання 2 — 3 краіны ў Афрыцы.

Трэба паспачуваць нашым дэпутатам Вярхоўнага Савета. Ім жа прыйшлося усё ўзважваць і ўзважваць ( парада С.Шушкевіча ). Даўзважваліся да таго, што за аднаго "зайца" можна купіць малую булачку, за "рыся" — кілаграм мяса. "Лось" абменьваецца на I кг каўбасы, бутэльку гарэлкі, але татараў гэта мала клапоціць, бо свіную каўбасу яны не ядуць, гарэлку не п"юць — вера забараняе. Калі ж у каго водзяцца "мядзведзі" ці "зубры", то іх скора можна будзе памяняць на кош бульбы і пакунычык цукерак.

Вялікі непакой выклікаюць падзеі на Крымскім паўвостраве. Калісьці нашы ваенныя спецыялісты пахваляліся, што могуць з космасу сфатаграфаваць чалавека на зямлі і будзе відаць, што ён у кішэні трымае фігу. Дык можа сфатаграфавалі зблізку тых, хто кідаў камяні і біў шыбы ? А можа на здымках аказаліся не тыя людзі, што патрэбны ? Дык проста сказалі, што татары б"юць.

Пра падзеі радасныя і сумныя глядзіце асобныя артыкулы: пра змест старадаўняга татарскага Зікера, пра жыццё татараў у Балгарыі пры Жыўкаве, пра першыя старонкі энцыклапедычнага даведніка пра татараў, пра новыя татарскія сем"і, нараджэнне дзяўчынкі, пра тых, чый зямны шлях завяршыўся ...

Вашы допісы і лісты шліце на адрас:
220090, г.Менск, Лагойскі тракт, д.27, кв.77
Якубу Якубоўскаму

النار هم فيها خلدون ۝ ٢٧٥ يمحق الله الربوا ويربي الصدقت
والله لا يحب كل كفار اثيم ۝ ٢٧٦ ان الذين امنوا وعملوا
الصلحت واقاموا الصلوة واتوا الزكوة لهم اجرهم عند ربهم
ولا خوف عليهم ولا هم يحزنون ۝ ٢٧٧ يايها الذين امنوا
اتقوا الله وذروا ما بقي من الربوا ان كنتم مؤمنين ۝ ٢٧٨
فان لم تفعلوا فاذنوا بحرب من الله ورسوله وان تبتم فلكم
رؤس اموالكم لا تظلمون ولا تظلمون ۝ ٢٧٩ وان كان
ذوعسرة فنظرة الى ميسرة وان تصدقوا خير لكم ان كنتم
تعلمون ۝ ٢٨٠ واتقوا يوما ترجعون فيه الى الله ثم توفى كل
نفس ما كسبت وهم لا يظلمون ۝ ٢٨١ يايها الذين امنوا اذا
تداينتم بدين الى اجل مسمى فاكتبوه وليكتب بينكم كاتب
بالعدل ولا ياب كاتب ان يكتب كما علمه الله فليكتب وليملل
الذى عليه الحق وليتق الله ربه ولا يبخس منه شيا فان
كان الذى عليه الحق سفيها او ضعيفا اولا يستطيع ان يمل
هو فليملل وليه بالعدل واستشهدوا شهيدين من رجالكم

Кур"ан. Сура Аль-Бакара, аяты 276 — 281.

# К У Р " А Н

## Сура Аль-Бакара

( працяг )

236. Не парушайце малітвы, і сярэднюю малітву, і станьце перад Аллагам з пакорлівасцю.

237. Калі вас апануе страх, тады чытайце вашу малітву на нагах стоячы,ці конна; але калі вам не пагражае небяспека, помніце Аллага, Ён навучыў вас таму, чаго вы не ведалі.

238. Тыя, што паміраюць і пакідаюць жонак, павінны завяшчаць сваім жонкам утрыманне на адзін год і не высяляць іх з хаты. Калі ж яны самі пойдуць, нельга іх асуджаць, што б яны ні рабілі з сабою. І Аллаг — Усемагутны і Мудры.

239. І для разведзеных жанчын таксама павінна быць прызначана пэўнае справядлівае утрыманне — як абавязак для тых, хто баіцца Аллага.

240. Так Аллаг тлумачыць свае запаветы вам, каб вы зразумелі.

241. Не ведаеш хіба ты пра тых, што пайшлі са сваіх хат, баючыся смерці — і такіх было тысячы.? І Аллаг сказаў ім: "Памрыце"; і пасля Ён вярнуў іх да жыцця. Сапраўды, Аллаг шчодры да людзей, але большасць людзей няўдзячная.

242. І змагайцеся ў імя Аллага і ведайце, што Аллаг Усячуйны, Усяведны.

243. Хто пазычыць Аллагу шчодрую пазыку, каб Ён памножыў яе ў многа разоў ? І Аллаг бярэ і памнажае, і Яму вы будзеце вернуты.

---

Заўвага: знаўцы Ісламу і беларускай мовы зазначылі, што слова Бог па-арабску гучыць Аллаг і так будзе лепш, чым напісанне Алах, як пішуць у руска-беларускім слоўніку.

244. Не чуў ты хіба пра правадыроў сыноў Ізраілевых пасля Майсея, калі яны сказалі прароку свайму: "Прызнач нам цара, каб мы маглі змагацца ў імя Аллага ?" Ён сказаў: "Ці не лепш будзе, калі вы не будзеце змагацца тады, калі вам прызначана змагацца ?" Яны сказалі: "Якія ж у нас падставы не змагацца, калі нас выгналі з хат нашых і ад сыноў нашых ?" Але калі ім загадалі змагацца, яны кінуліся прэч, апрача нямногіх. І Аллаг добра ведае грэшнікаў.

245. І прарок іх сказаў ім: "Аллаг прызначыў Талута царом вашым". Яны сказалі: "Як жа ён можа ўладарыць над намі, калі ў нас больш права на ўладу, чым у яго, і ў яго няма багацця ?" Ён сказаў: "Сапраўды, Аллаг выбраў яго быць над вамі, і памножыў мудрасць яго, і ўмацаваў цела яго". І Аллаг дарує ўладу, каму Ён захоча, і Аллаг Шчодры і Усяведны.

246. І прарок сказаў ім: "Знак яго ўлады ў тым, што вам будзе дарвана сэрца, у якім будзе свет ад Уладыкі вашага і спадчына дабра, пакінутая родам Майсея і Арона. Ангелы будуць носьбітамі яго". Сапраўды, у гэтым ёсць знак вам, калі вы верыце.

247. І калі Талут выступіў з войскам, ён сказаў: "Сапраўды, Аллаг выпрабоўвае вас каля ракі. Той, хто будзе піць з яе — не будзе са мной, а той, хто не вып"е, абавязкова будзе са мной, за выключэннем тых, хто зачэрпне ваду рукой". Але яны пілі з ракі, апрача нямногіх. І калі яны перайшлі яе — ён і тыя, хто яму паверыў, — яны сказалі: "У нас цяпер няма сілы супраць Джалута і яго войска". Але тыя, якія цвёрда ведалі, што прыйдзе дзень, калі яны стануць перад Аллагам, сказалі: "Як часта бывала, што малое войска адольвала большую сілу па волі Аллага !". І Аллаг з тымі, хто цвёрды.

248. І калі выйшлі яны насустрач Джалуту і войску яго, то сказалі: "О, Уладыка наш, надзялі нас мужнасцю і ўмацуй нас і памажы нам супраць няверных."

249. Так яны пагналі іх па волі Аллага. І Давід забіў Джалута і Аллаг падараваў яму уладарніцтва і мудрасць і навучыў яго ўсяму, чаму Ён захацеў. І каб Аллаг не супрацьстаяў людзям, адным праз другіх, зямля б напоўнілася смутай. Але Аллаг шчодры да ўсіх людзей.

250. Такія знакі Аллага. Мы праўдзіва аб"яўляем іх табе. Сапраўды, ты адзін з пасланцоў.

251. Гэтых пасланцоў узвялічылі Мы, адных больш за другіх; сярод іх ёсць тыя, з якімі пэўным чынам гаварыў Аллаг і іх Ён узвялічыў вышэй за іншых у ступенях чына. І мы далі Ісе, сыну Марйам, выразныя доказы і ўмацавалі яго духам святасці. І калі б Аллаг прымушаў падпарадкоўвацца волі Сваей, тыя, што прыйшлі пасля іх, не змагаліся б адзін супраць другога пасля таго, як яўныя знакі сышлі на іх. Але яны сталі спрачацца. Былі сярод іх некаторыя, што не верылі. І калі б была на тое воля Аллага, яны б не змагаліся адзін супраць другога. Але Аллаг робіць тое, што Яму пажадана.

252. О, вы, вернікі, ахвяруйце з таго, што Мы даравалі вам раней, чым прыйдзе дзень, калі не будзе ні куплі, ні продажу, ні дружбы, ні здрадніцтва; і нявернікі робяць шкоду самі сабе.

253. Аллаг — няма Бога, апрача Яго, Бога Жывога, Самаіснага, Усетрымальніка. Ні дрымота, ні сон не валодаюць Ім. Яму належыць усё, што ёсць на нябёсах, і усё, што ёсць на зямлі. Хто можа стаць перад Ім, апрача як з дазволу Яго? Ён ведае, што упарадзе іх, і што ззаду у іх; і нічога не могуць узяць яны з уладанняў Яго, апрача таго, што пажадае Ён. Прастол Яго распрасціраецца на нябёсы і на зямлю; і клопат Яго не у цяжар Яму: Ён — Усявышні, Вялікі.

254. У веры не можа быць прымусу. Сапраўды, выразней стала цяпер адрозненне паміж дабром і злом; такім чынам, хто адмаўляецца рабіць так, як грэшнікі, і верыць у Аллага, сапраўды, трымае ён у руцэ свае дзяржальна, што не зломіцца ніколі. Аллаг — Усечуйны, Усебачны.

255. Аллаг сябра тых, хто верыць; з цемры Ён выводзіць іх на святло. А тыя, хто не верыць — іх сябры грэшнікі, якія са святла уводзяць у цемру; яны — насельнікі агню, і там яны будуць заусёды.

256. Хіба не чуў ты, хто паспрачаўся з Ібрагімам пра Уладыку яго, таму што Аллаг падараваў яму царства? Калі Ібрагім сказаў: "Мой Уладыка той, хто даруе жыццё і чыніць смерць". Ён сказаў: "Я таксама дарую жыццё і чыню смерць". Ібрагім сказаў: "Добра, што Ал-

лаг прымушае сонца ўзыходзіць на ўсходзе; прымусь ты яго ўзыходзіць на захадзе". І збянтэжыўся няверны. І Аллаг не скіроўвае няправедных.

257. І хіба не чуў ты, як некаторыя праязджаючы каля горада, разбуранага дашчэнту, усклікнулі: "Калі ж верне Аллаг яго да жыцця пасля яго разбурэння ?" Тады Аллаг прывёў яго ў стан смерці на сто гадоў; потым Ён уваскрасіў яго і сказаў: "Ці доўга ты пабыў у такім стане ? " Ён адказаў: "Я пабыў у ім адзін дзень ці частку дня". Ён сказаў: "Не, ты быў у такім стане сто гадоў. Глянь цяпер на ежу тваю і пітво тваё, яны не сапсаваліся. І глянь на асла твайго. І Мы зрабілі гэта, каб зрабіць цябе знакам для людзей. І паглядзі на косці, як Мы складаем іх і пакрываем плоццю". І калі стала гэта зразумела яму, ён сказаў: " Я ведаю, што Аллаг мае ўладу рабіць усё, на што мае волю Сваю".

258. І успомні, як сказаў Ібрагім: "Уладыка мой, пакажы мне як Ты даруеш жыцце мёртвым". Ён спытаў: "Ці ты не паверыў ?". Той сказаў: "Паверыў, але я прашу гэтага, каб супакоіць сэрца сваё". Ён адказаў: "Вазьмі чатырох птушак і прыручы іх , пасля пакладзі на кожнай гары па частцы іх, а пасля пакліч іх: яны паспяшаюцца прыляцець да цябе. І ведай, што Аллаг Усемагутны і Мудры".

259. Тыя, хто ахвяруе багацце сваё ў імя Аллага, падобныя зярняці, з якога вырастае сем каласоў, і ў кожным коласе сто зярнят. І Аллаг яшчэ памнажае гэта, калі Ён захоча. І Аллаг Шчодры і Усяведны.

260. Тым, хто ахвяраваў багацце сваё у імя Аллага і, калі ахвяраваў, не выказваў папрокаў і не крыўдаваў, чакае ўзнагарода ад Уладыкі іх, і не пазнаюць яны ні страху, ні скрухі.

261. Добрае слова і дараванне лепшае за дабрачыннасць, за якой будзе крыўда. Сапраўды, Аллаг багаты, цярплівы.

262. О, вы, вернікі, не рабіце міласціны вашай марнай з папрокамі і крыўдай, як той, хто ахвяруе багацце сваё на паказ людзям. Такі не верыць у Аллага і ў Апошні Дзень. Ён падобны на гладкую скалу, пакрытую зямлёй, на якую ідзе моцны дождж, агаляючы яе і робячы гладкай і цвёрдай. Такія не замацоўваюць за сабой нічога са зробленага імі. І Аллаг не накіроўвае няверных.

263. А тыя, хто ахвяруе багацце сваё, каб дагадзіць Аллагу і умацаваць душы свае, падобныя на сад на высокім месцы. Моцны дождж падае на яго і памнажае яго плады. Калі ж няма вялікага дожджу, то дастаткова і малога. Аллаг бачыць вашы справы.

264. А ці хоча хто з вас, каб быў у яго сад з пальмавых дрэў і вінаградных лозаў, з ручаямі, якія цякуць у садзе, з усялякімі пладамі, — калі старасць прыйдзе да яго і патомства яго слабое — каб вогненны вецер паразіў сад і выпаліў усё ? Так тлумачыць вам знакі свае Аллаг, каб падумалі вы.

265. О,вы, вернікі, ахвяруйце з усяго добрага, што вы зарабілі і што Мы вырошчваем вам з зямлі. Нічога не думайце ахвяраваць з благога, чаго вы не ўзялі б і самі, хіба толькі дзеля паблажлівасці таму; і ведайце, што Аллаг багаты і слаўны.

266. Д"ябал пагражае вам галечай і кліча вас да нячысціка, Аллаг жа абяцае вам даравание Сваё і шчадроты; Аллаг Шчодры і Усяведны.

267. Ён даруе мудрасць, каму захоча, і абдораны мудрасцю, сапраўды, атрымлівае дастатак, але ніхто не адчувае напаміну, апрача надзеленых разуменнем.

268. І што б вы ні ахвяравалі, які б зарок ні давалі, сапраўды, Аллаг ведае пра тое; а для тых, хто робіць зло, не будзе памочнікаў.

269. Калі вы даеце міласціну адкрыта — гэта дабро; але калі вы скрываеце міласціну вашу і даеце бедным — то гэта лепш для вас. І Аллаг ведае пра вашы справы.

270. Прымушаць іх ісці па шляху ісціны — не твой абавязак; але Аллаг накіроўвае, каго хоча. І што б вы ні ахвяравалі, вы гэта робіце для сябе, калі вы гэтага не робіце для чаго іншага, а толькі для таго, каб знайсці міласць Аллага. І што б вы ні ахвяравалі з багацця, усё вернецца, і вы не будзеце ў крыўдзе.

271. Міласціна гэта тым бедным, што служаць Аллагу і не могуць свабодна перамяшчацца па краіне. Невукі думаюць, што яны не

адчуваюць патрэбы, бо яны асцерагаюцца збіраць міласціну. Ты пазнаеш іх па выглядзе іх; яны не просяць у людзей міласціны дакучліва. І што б вы ні ахвяравалі з багацця свайго праўдзівага, Аллаг добра ведае пра гэта.

272. Тыя, хто ахвяруюць свае багацце днём ці ноччу, тайна і адкрыта, атрымліваюць узнагароду ад Уладыкі свайго; не будуць ведаць яны ні страху, ні скрухі.

273. Той, хто ліхвярыць, не стане інакшым, але толькі як той, каго сатана надзяліў вар"яцтвам. Так будзе з імі, бо яны гавораць: "Гандаль таксама падобны да ліхвярства", але ж Аллаг зрабіў гандаль законным, а ліхвярства незаконным. Такім чынам, калі той, на каго сыйдзе павучанне ад Уладыкі яго, пакладзе канец ліхвярству, тады тое, што ён атрымаў раней, будзе належыць яму; і справа яго ў руках Аллага. Але тыя, хто вяртаюцца да ліхвярства, — яны насельнікі агню, і яны там будуць заўсёды.

274. Аллаг касуе ліхвярства і памнажае міласэрнасць. Аллаг не любіць зацятых у навер"і і вялікіх грэшнікаў.

275. Сапраўды, тыя, хто вераць і робяць добрыя справы, трымаюць малітву , і давалі ачышчэнне, — ім іх узнагарода ад Уладыкі свайго, і не будуць ведаць яны ні страха, ні скрухі.

276. О, вы, вернікі, бойцеся Аллага і адмоўцеся ад рэшты ліхвы, калі вы вернікі

277. Але калі вы гэтага не зробіце, бойцеся варожасці Аллага і Яго Пасланніка; але калі вы раскаецеся, вы атрымаеце вашу галоўную суму, такім чынам вы не пакрыўдзіце і не будзеце пакрыўджаны.

278. Але калі даўжнік не можа вярнуць доўг, дайце яму адтэрміноўку. Але калі даруеце доўг, як міласціну, гэта будзе лепш для вас, каб вы гэта ведалі.

279. І бойцеся дня, калі вам трэба вярнуцца да Аллага; тады кожная душа атрымае па заслугах яе; і не будуць яны пакрыўджаны.

280. О, вы, вернікі, калі вы пазычаеце адзін у аднаго, запісвайце пазыку. І хай пісар сумленна запіша гэта пры вас; нягожа пісцу адмаўляцца запісваць, бо Аллаг навучыў яго; і хай ён запіша, а даўжнік запомніць доўг і баіцца Аллага, Уладыкі свайго, і не змяншае свайго доўгу. Але калі даўжнік невялікага розуму або

слабы і не можа запомніць, то хай хто другі, хто можа абараняць яго інтарэсы, запомніць па справядлівасці. І вазьміце двух сведак з вашых блізкіх, а не знойдзеце двух мужчын, то вазьміце аднаго мужчыну і дзве жанчыны, так што, калі адна жанчына забудзецца, то другая напомніць ей. І сведкі не павінны адмаўляцца, калі іх паклікаюць. Не грэбуйце запісваць гэта, малое яно ці вялікае, разам з вызначаным тэрмінам плацяжу. Так будзе сумленна ў вачах Аллага і робіць сведчанне больш надзейным і зберагае вас ад сумнення; такім чынам, не грэбуйце запісамі, за выключэннем тавараў, якія перадаюцца з рук у рукі, у такім выпадку не будзе грэхам, калі не запішыце. І майце сведак, калі прадаеце адзін аднаму; і хай не будзе гвалту ні пісару ні сведкам. І калі вы гэта ( гвалт ) зробіце, сапраўды, будзе для вас непаслушэнствам. І бойцеся Аллага. І Аллаг падаруе вам веды, і Аллаг усё добра ведае.

281. І калі вам здарыцца быць у дарозе і вы не знойдзеце пісара, бярыце заклад пры перадачы маёмасці. І калі з вас давярае другому што-небудзь, хай тут, каму было даверана, верне даверанае, і хай баіцца ён Аллага, Уладыку свайго. І не утойвайце пісьмовага сведчання, і сапраўды , грэшнае сэрца таго, хто утойвае, і Аллаг добра ведае, што вы робіце.

282. Аллагу належыць усё, што ёсць на нябёсах і што ёсць на зямлі; і ці адкрываеце вы тое, што ў галаве вашай, ці хаваеце, Аллаг патрабуе ў вас адказу за усё. Тады Ён даруе, каму Ён захоча, і пакарае, каго захоча; і Аллаг мае уладу рабіць усё па волі Свaей.

283. Гэты Пасланец Наш верыць у тое, што адкрыта яму Уладыкай яго, і тое самае робяць вернікі: яны вераць у Аллага, і ангелаў Яго, і Кнігі Яго, і ў Пасланцоў Яго, гаворачы: "Мы не робім розніцы паміж Яго Пасланцамі", і яны гавораць: "Мы чуем і падпарадкуемся. Мы вымольваем дараванне Тваё, о, Уладыка наш; і да Цябе - наша вяртанне".

284. Аллаг не абцяжарвае ніякую душу больш за яе сілы. Яна атрымае узнагароду па заслугах сваіх, і атрымае пакаранне па заслугах сваіх. Уладыка наш, не карай нас, калі заблудзем ; і, Уладыка наш, не абцяжарвай нас тым, на што няма ў нас сілы; і адпусці нам грахі нашы, і дай нам дараванне, і будзь літасцівы да нас; ты Пан наш; такім чынам, памажы нам супроць няверных.

# МУСУЛЬМАНСКІЯ ЗВЫЧАІ

## С К А Ж Ы:

БІСМІАЛЛАГ ( у імя Аллага ) — пачынаючы якую-небудзь дзейнасць;

АС-САЛЯМ АЛЕЙКУМ ( мір з табой ) — калі спаткаеш мусульманіна;

ВА-АЛЕЙКУМУ-С-САЛЯМ ( і з табой мір ) — у адказ на прывітанне;

ІН ША АЛЛАГ ( калі Аллаг захоча ) — калі маеш надзею штонебудзь зрабіць;

СУБГАН АЛЛАГ ( хвала Аллагу ) — калі трэба кагосьці пахваліць;

МА ША АЛЛАГ ( так Аллаг пажадаў ) — дзівячыся;

ФІ АМАНІ ЛЛАГ ( пад апекай Аллага ) — развітваючыся з кім-небудзь;

ДЖАЗАК-АЛЛАГУ ХАЙРАН ( няхай Аллаг табе аддзячыць ) — дзякуючы;

ТАВАККАЛЬТУ АЛА-ЛЛАГ ( на Аллага пакладаю надзею ) — пры вырашэнні праблемы;

ЛА ІЛАГА ІЛ•АЛЛАГУ ( няма боства акрамя Аллага ) — калі рана ўстаеш;

ЯРГАМУК АЛЛАГ ( няхай Аллаг змілуецца над табой ) — калі чуеш, як хто-небудзь чхае;

АЛ-ГАМДУ ЛІ-ЛЛАГ ( хвала Аллагу )— калі сам чхаеш; калі ў цябе спыталі, як справы, а яны не найгоршыя;

АМІН ( прымі маю малітву ) далучаючыся з іншымі ў малітве;

Я АЛЛАГ ( о, Аллаг ) — у бядзе, роспачы;

АСТАГХФІРУ-ЛЛАГ ( прабач мне, Аллаг ) — калі шкадуеш, што зрабіў дрэнны ўчынак;

НАЎ•ЗУ БІ-ЛЛАГ ( да Аллага ўцякаем ) — каб паказаць сваю неахвоту, агіду да нечага ці да некага;

ІННА БІ-ЛЛАГ ( Аллагу належым ) — калі пачуеш пра смерць мусульманіна.

ГЭТЫ ЗІКЕР ПЯЮЦЬ СПРАДВЕКУ СМІЛАВІЦКІЯ ТАТАРЫ

Шлях навуковага даследавання бывае вельмі складаны. Вось, напрыклад, як гэты. У Смілавічах ужо некалькі стагоддзяў жывуць татары. Была у іх мячэць, некаторыя мелі валоку-другую зямлі ( яшчэ і сёння могуць паказаць, дзе былі прадзедаўскія гоні ) і ведаюць сваю радаслоўную, маюць дакументы аб шляхетскім паходжанні, выявы гербаў.

У святочныя дні на мізары збіраюцца на маленне. Бывае і сумная нагода — пахаванне тутэйшага мусульманіна, або нават з далёкага Менска, бо там няма асвячонай мусульманскай зямлі. Збіраюцца татары таксама на жалобную вячэру, каб памаліцца за мусульманскую душу. Тады пасля чытання адпаведных дуа ( малітваў ), абавязковай і любімай усімі суры з Кур"ана — Я-Сін, імам пяе Зікер. Да яго далучаюцца тыя, хто ўмее чытаць па-арабску, бо тэкст напісаны арабскімі літарамі. Словы ж ЛА ІЛАГА ІЛ'АЛЛАГУ МУХАММЕД РЭСЮЛЬ УЛ-ЛАГ ( няма боства акрамя Аллага, а Мухаммед пасланнік Яго ) — прыпеў, што паўтараецца пасля кожнай страфы, пяюць усе прысутныя.

Ураджэнец Смілавіч Ібрагім Канапацкі дзесяткі разоў чуў Зікер, вывучыў яго. Толькі хацелася даведацца, пра што гэты Зікер. Імам пяе яго з мусульманскай кнігі, якая без змен і варыянтаў, падобна як Кур"ан і Хамаіл, перапісваецца з прадаўніх часоў. Звяртаўся Ібрагім да тых, хто ведае турэцкую мову, бо спадзяваўся, што Зікер напісаны на старатурэцкай мове. Атрымаў толькі прыблізны пераклад. І вось на навуковай канферэнцыі у Сімферопалі пазнаёміўся з Генрыкам Янкоўскім, які жыве і працуе у Венгрыі, добра ведае цюркскія мовы і цікавіцца беларускімі татарамі. Вярнуўшыся у Смілавічы, Ібрагім пайшоў да імама і з кнігі дакладна перапісаў пад дыктоўку кірыліцай гэты Зікер. Адаслаў у Венгрыю і вось што атрымалася у выніку гэтага ...

Прыйшоў ліст ад Янкоўскага на англійскай мове. Ібрагім англійскую мову ведае крыху горш, чым нямецкую ( нямецкую латвей было вучыць, бо з дзяцінства сябраваў з яўрэйскімі хлапчукамі ), а таму звярнуўся да нашага татарскага паліглота Ісмаіла Александровіча, каб зрабіў пераклад. Тут мы у "Байраме" друкуем гэту працу. А чаму ж Генрык Янкоўскі напісаў ліст на англійскай мове ? Магчыма таму,

што гэта артыкул, які аўтар надрукуе ў нейкім часопісе. Так што сачыце, татары, за навуковай літаратурай. Покуль што чытайце тое, што перакладзена на беларускую мову.

Малітва беларускіх татараў. Новы моўны дакумент

Малітва была запісана з голасу імама Мустафы Хасеневіча Асановіча з Смілавічаў Чэрвеньскага раёна Менскай вобласці 10 верасня 1991 года Ібрагімам Канапацкім, затым перапісана кірыліцай і выслана аўтару гэтых радкоў. Канапацкі выказаў сваё меркаванне, што мова гэтай малітвы, магчыма, старатурэцкая.

Слова "Зікер" турэцкае ад арабскага "зікр" — упамінанне. Як рэлігійны тэрмін праслаўляе Аллага, а ў гэтым тэксце — праслаўляе прарока Мухаммеда, яго ўласцівасці — міласэрнасць і моц. У гэтым папярэднім артыкуле тэкст перапісаны ў левым слупку, а транслітэрацыя паралельна правым. Транслітэрацыя строга філалагічная, уключае пунктуацыю з адзінай асаблівасцю — усе літары малыя.

Мова малітвы турэцкая з уплывам кіпчацка-татарскай. Гэты татарскі ўплыў не можна покуль што аднесці да якой-небудзь канкрэтнай цюркскай мовы, а можа разглядацца як аснова існаваўшых астаткаў забытай тутэйшымі татарамі сваей роднай мовы. Пачаткам адміранння мовы можна лічыць, відавочна, пачатак 16 стагоддзя. Але, відаць, гэта быў працяглы працэс, у час якога скарыстанне размоўнай татарскай мовы паступовы абмяжоўвалася. Адміранне мовы праходзіла на розных узроўнях не аднычасова і не аднолькава.

Найбольшым этналагічным адрозеннем паміж татарамі і мясцовымі жыхарамі ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве была іх рэлігія ... Як вядома, адміранне татарскай мовы адбылося яшчэ і таму, што мовай малітваў была арабская мова.

Усё ж кантакты паміж татарамі Беларуска-Літоўскай дзяржавы і Усходам, мусульманскім светам ніколі поўнасцю не перарываліся. І адбывалася сувязь шляхам матэрыяльнай, духоўнай, а таксама лінгвістычнай дапамогі Турцыі. Аб гэтым дае некаторае уяўленне кавалачык рэлігійнай паэзіі як вынік такіх кантактаў.

У канцы артыкула друкуем тры страфы Зікера на беларускай мове ў перакладзе І.Александровіча. Астатняе можа зрабіць кожны татарын, калі хоча мець асалоду ад вынікаў сваей працы.

ZIKER

Dertlülernin tabibi
Ey, tek birnin habibi
Yarlïqaγïl bir garibi
Šeyh ül-Lahi Muhammed.
  La ilaha il'Allahu
  Muhammed resül ül-Lah.

dėrtėlju, lernin tabibi,
ėj tėkbir, njun xabibi,
erlika, gil bir garibi,
šėjun, lillagi muxammed.
  lja, illjagė, illjallagu,
  rėssjulljullag.

Ğümle dervišler ondan
Al-i[1] Mustafa nurundan
Ol dervišler sadinden[2]
Fehri, fehri Muhammed.
  La ilaha...

džumle, dervišler ėndan'
ul' mustafa, njurindėn'
uldėr višler, sadyndėn,
fexri, fexri muxammėd.

Dervišlikin qïlγan(ï)
Ulvilernin ulviyan(ï)[3]
Al-Furqan genği bulγan(ï)[4]
El-Beyanï qïlan(ï)[5] Muhammed.
  La ilaha...

dėr višlikin', kylgan',
ul'afi, lernin evlifan',
ul'furkan', kenče bulgan'
ul' bejani kylani muxammed.

Qobar[6] ahïr zemanda

kubar axyr zemandė

---

[1]Probably from Arabic 'ill, Tur. al 'family; dinasty', cf. REDHOUSE (1968: 41), i.e. descendants of Mustafa (the title of the prophet, the elect of God)

[2]From Arabic sa'd 'hapiness'?

[3]This spoiled line may also suggest other readings, e.g. **velilernin evliyasï**, 'the saint of the saints' which fits more the sense, but not the rhyme or **velilernin eylegeni** 'who made the saints, protectors', but this solution would require accusative suffix, not genitive.

[4]**kenğe** means in Crimean Tatar 'junior; younger' which seems to make no sence here; therefore probably Per. **genğ** 'treasure'?; provided that the verb **bul-** is of Turkish type and means 'to find', versus Kipchak (and also Azerbaijani, Turkman) **tap-**, and not a Volga Tatar variant **bul-** of the Kipchak **bol-** (Turkish **ol-**) 'to be'; the expectable accusative suffix may be deleted in the poetry.

[5]Other readings possible: **ulu beyanïn kelami...; el-beyanïn kelami** etc.

[6]Turkish **kop-** 'to break off', which corresponds to Kipchak **üz-**? ; other possible reading **kubūr**, Arabic 'greatPL'.

| | |
|---|---|
| Nuru ile ğiqanda[7] | njuri ile čigando, |
| Yad edilmišdür iki ğihanda | jad' il' mišdur iki čigande, |
| Safi aršun Muhammed. | safi aršun muxammed. |
| La ilaha... | |
| | |
| Ariš-šemsü[8] ve dua | ariššemsju veddua. |
| Qamer yüzlü Mustafa | kamer juzlju mustafa. |
| Mustafadïr ve Murtaza | mustafa dèr vemurtèda, |
| Fehr-i alem, Muhammed. | fexri velem muxammed. |
| La ilaha... | |
| | |
| Kölgü[9] Allahudur adï | kol'guvellagu duradydy, |
| Žillu'Llahu sïfatï | zil'deljaljun syfaty; |
| Ne arifdir batini | nearef dèr batyni, |
| Küler jüzlü Muhammed. | kjuler juzlju muxammed. |
| La ilaha... | |
| | |
| ? Süleyman ? | kul' sjulejman besejani, |
| Bek saqlaγïl imanï | bekseklja gil' imani, |
| Kim Ḩak učun verse dini | kimxak uču verseni deni, |
| Šefi[10] figanï Muhammed. | šefiv figani muxammed. |
| La ilaha... | |
| | |
| Kören kördi diyarï?[11] | kjuren kjur dy digali, |
| Hem ešitti kelamnï | gèmašiddy keljamni |
| Aldïlar? ?[12] selamï | èldyler sittyn seljami |
| Devlet(-i) ali(ye) Muhammed. | dèvlet ali muxammed. |
| La ilaha... | |
| | |
| Ser-mürseldür adun | ser mursel'dur adun', |
| Ümmetleründür yadun | ummet lerun dur jadun', |
| Huda teŋridur yadun | xuzja tènkeri dur jadun |

---

[7] or ǧıhanda 'in the world'.

[8] From Arabic **ʾarıš šems$^{u}$** 'the shed, alcove of the sun' ?

[9] Crimean Tatar **kölge, kölətke** (in the Northern Dialect also **talda**), Turkish **gölge** 'shadow', that is the same as the next Arabic **ẓill**.

[10] The sense of this line is unclear, Arabic **šefīʿ** 'intercessor' and Persian **fiǧān** 'cry; wail; lamentation'.

[11] The rhyme suggests a word ending with -am, the verb 'to see' something visible, perhaps **alem**, from Arabic **ʿalem** 'mark'.

[12] The verb valency gives prompt for an object suffixed by -**DIN**, in this case, -**tïn**.

| | |
|---|---|
| ? tadïmuz Muhammed. | serta dimuzi muxammed. |
| La ilaha... | |
| | |
| Qašï nun tek[13] yazïlmïš | kašinjun tek"ja zilmiš, |
| Dišï inǧe dizilmiš | dyši indjady zilmiš, |
| Nazï de hič kelmemiš | na zydė gič kelemmjš, |
| Šiddi ziya Muhammed. | šiddy zija muxammed. |
| La ilaha... | |
| | |
| Kim erse? ister izzeti | kjum ilse istėr yzetty, |
| Kimi dünya devleti | kimi dun'ja dėvlety |
| Kim ziyneti | gum zinety |
| Ummet ister Muhammed(i). | ummet istėry muxammed. |
| La ilaha... | |
| | |
| Ummetlerün burhanï | ummet lerun burgani, |
| Dertlülernün dermanï | dėrlju lernjun dėrmani, |
| Ašiklerün hoš ǧanï | ašiklerun xušdjani, |
| Resül'lahu Muhammed. | resjullagu muxammed. |
| La ilaha... | |
| | |
| Ismi taha ve esen | ismi tagave jasen' |
| Čeker ümmetler Yasen | čeker ummet ler jasen' |
| Nušda derhemdir?[14] Yasen | nušda dėrgam dėr jasen, |
| Ǧismi ehsen Muhammed. | dismi ėsxen muhammed. |
| La ilaha... | |
| | |
| Ǧennetin ul[15] istemez | dinnetyn ul istėmez |
| Ǧehennemden hič qorqmaz | degėnnemdėn xyč kur |
| ? körmede(n)? | kumaz ušmet kjur mede, |
| Fehri olmaz[16] Muhammed. | fexri ulmaz muxammed. |

---

[13]That is, like the Arabic letter nūn.

[14]This verse is not quite clear, the first word is apperantly a Persian stem nūš- 'to drink', though the -da is vague; other possible readings nušande 'drinking' or more probably nuš eder(ken) ?, the former may suggest that the second word is derhem, from Persian 'bewildering', the latter that the third is Persian ǧam(dur) 'grief; worry'; none of these raedings satisfies.

[15]cf. Volga Tatar ul, Turkish ol 'he; she; it'.

[16]This verb is seemingly displaced from the preceding line where it shall rhyme with istemez and qorqmaz. Moreover, it does not fit the last line semantically, either. Was not the third line like Ismet körmeden almaz 'He does not accept unless one is pure'?

La ilaha...

Atasïndan tuγanda
Ümmet ?
Ümmet ičun Sïratta
Tursa kerek Muhammed.
La ilaha...

èta sinden tugandè,
ummet èdydy lindè,
ummety čun sy[illegible]
tatur sekerek muxammed.

Allah, Allah Hudaya
Doymaz ümmet qaraya
Ya rebbi, senden ataya
Yaz kalamï Muhammed.
La ilaha...

èllag, èllag xyzjae,
duimaz ummet garaja,
jarebbi senden ataja,
jaz kalani muxammed.

Šefaatun umaruz
Keğe kündüz beklerüz?
Hep senün ümmet(ün)üz
Koyma bizi, Muhammed.
La ilaha...

šefa atun' umaruz,
kečkjunjuz ukleruz,
gèbsenjum ummet,
juzku mabizi muxammed.

Allah, Allah derse
Ul Buraq(nï) binerse?
Ümmetlerün öninde
Sallana[17] kider Muhammed.
La ilaha...

èllag, èllag dyèssèr
ul burak binneser
ummet lerun unindè
salini kidèry muxammed.

Qïyamet kün oldukda
Mekke'sinden döndükde
Saf, saf olun dedikde
Niyazï qïlan Muhammed.
La ilaha illa'Llahu
illa'Llahu iman virgey
bir Allah.

kyja met kjun ulduk,
remeka sirdèn dikudukdè,
saf saf uljun didukrè
Nijas kylani muxammed.
La illagè il illagè
la illagè iman virkej
bir allah.

Translation

Doctor of the sufferers,
Beloved of the One,
Forgive the poor one,
Prince of Allah.
There is no god but God
And Muhammad is the envoy of God.

All dervishes are from Him,
From the light of Mustafa's clan,
?The dervishes are all from his happiness,
Glory, glory, Muhammad.

---

[17] Or Sallanïp

There is no god...

He who made the dervish order,
?Jupiter and Saturn above the highest,
?He who found the treasure of Koran,
He who delivered the word.
There is no god...

There will be a break in the Last Day,
When He arises with the ligth,
His memory retained in both worlds,
Your throne is pure, Muhammad.
There is no god...

?
Moon-like faced, Muhammad,
God chose Him and is pleased with Him,
Glory of the world, Muhammad.
There is no god...

His name is Allah's shadow,
And attributes are the shades.
How much does he know intrinsincly,
Smiling faced Muhammad.
There is no god...

? Suleiman ?
Keep firmly the faith,
?That you will give (back) your religion to God,
Muhammad, the intercessor of those who lament.
There is no god...

One who looked saw the sign,
And heard the word.
They ? acquired the greeting,
Muhammad (whose) power is great.
There is no god...

Your name is chief apostle,
Your memory is in the community (of Muslims),
Your memory is God,
Our ? taste, Muhammad.
There is no god...

His eyebrows are written like a nun (letter),
His teeth are finely arranged,
He never whimmed,
Muhammad, the strong light.

There is no god...

One wants the glory,
Another the world power,
Another adornment,
The community wants Muhammad.
There is no god...

Evidence for communities,
Remedy for sufferers,
The joyful soul of lovers,
Muhammad, messenger of Allah.
There is no god...

His name is pure and sound,
Communities worship Yasen,
?How great and bewildering is Yasen,
Muhammad whose body is the most beautiful,
There is no god...

He does not want the Paradise,
And does not fear from hell.
?He does not accept impure,
Glory ? Muhammad.
There is no god...

Born from his father,
?... the community,
Muhammad who on behalf of the community
Shall mount the Sirat bridge.
There is no god...

Allah, Allah, the Lord,
?Will not satisfy himself of looking at the community,
Oh, my Lord, may Muhammad
Write the announcement for you.
There is no god...

We hope for intercession,
We wait day and night,
We are your people
Muhammad, do not leave us.
There is no god...

If only Allah says,
He mounts Burak,
In front of the community,
Swings and goes away.
There is no god...

When the Last Day comes,
?He returns from his Mekka,
People will greet Muhammad,
Who entreats a favour of (Him).
There is no god...
Allah, give the faith.

---

Лекар для тых, хто пакутуе,

Любімы Адзіным( Аллагам ),

Прабачваючым бедным ( Аллагам ),

Уладар, пастаўлены Аллагам.

Прыпеў: Няма боства акрамя Аллага,
а Мухаммед пасланнік Яго.
Мы спадзяемся на ласку,
Мы думаем пра цябе дзень і ноч,
Мы твае людзі,
Мухаммед, не астаўляй нас.
Прыпеў: Няма боства акрамя Аллага,
а Мухаммед пасланнік Яго.
Калі надыйдзе Судны дзень,
Ён вернецца з Меккі*
Людзі будуць вітаць Мухаммеда,
Які прасіў заступніцтва за нас перад Ім ( Аллагам ).
Прыпеў: Няма боства акрамя Аллага,
а Мухаммед пасланнік Яго.

---

* Прарок Мухаммед пахаваны ў горадзе Медына, але у народнай традыцыі месцам пахавання нярэдка называецца горад Мекка.

# МУСУЛЬМАНСКІ ДАКУМЕНТ З МЕНШЧЫНЫ

Алі Халембек перадаў квартальніку "Байрам" цікавы дакумент— копію Акта выбрання на пасаду імама Асмалоўскага джаміяту ( парафіі ), які збярогся на Беласточчыне. З гэтага Акта можна зрабіць некалькі выснаў:

1. У выбранні імама прымалі ўдзел толькі дарослыя мужчыны. Іх было у джаміяце 59, а ўсяго мусульман было, верагодна, 200 чалавек.

2. У Акце не называецца колькасць мусульман, якія галасавалі супраць прапанаванай кандыдатуры на пасаду імама. Выбары адбыліся , як бы мовіць цяпер, кансэнсусам.

3. Большасць выбаршчыкаў падпісалася па-руску, 16 — па-арабску, 13 было непісьменных, падпісаліся за іх суседзі.

4. Шляхетствам шчыціліся 23 выбаршчыкі, 3 чалавекі указалі пасаду, двое — маёмасны стан ( памешчык ).

5. Многія выбаршчыкі назвалі толькі сваё імя і прозвішча, астатнія указалі імя бацькі, толькі адзін, калежскі саветнік імя па бацьку напісаў на рускі манер, на -іч — Саліх Якаўлевіч Багдановіч.

6. Найбольш пашыранымі былі прозвішчы Александровіч, Байрашэўскі, Карыцкі, Казакевіч. Імёны традыцыйна мусульманскія, зрэдку размоўныя ( Куба, ад поўнага мусульманскага імя Якуб ), зрэдку хрысціянскія. Але ж выбіралі імама толькі мусульмане ?

7. Выбранне імама было не прыватнай справай джаміяту, таму Акт дасылаўся ў службовыя дзяржаўныя інстанцыі ( джаміят выдаваў мусульманам метрыкі, а ад іх залежыў і прызыў на вайсковую службу, і наследаванне маёмасці — галоўным чынам зямлі ), а таксама ў Сімферопальскі муфтэят.

Дапытлівыя чытачы, прааналізаваўшы гэта Акт, могуць зрабіць грунтоўныя і цікавыя высновы.

## АКТ

1882 года Ноября Минской губернии 2 Стана Слуцкого уезда. Чиновники, помещики и дворяне Осмоловского магометанского прихода имели разсуждение, что имам их прихода Амурат Иосифов Смольский волею Божею жизнь кончил сего года истекшего Октября месяца. Постановили избрать другого имама в Осмоловской приходской соборной мечети среди себя вполне соответствующаго ему званию как в

хорошем поведении, так в полном знании догматов религии Магометанской веры и русской грамоты дворянина Якова Сюлейманова Ясинского, который обязуется тут же в Осмолове жить вблизи мечети и все принадлежащие духовника обязанности исполнять в точности рачительно и аккуратно с предоставлением ему правом с сего времени владеть вакуфною валокой земли, разположенной в Осмолове. Каковой Акт укрепив грамотные собственноручно, а неграмотные через уполномоченных подписями представить посредством уполномачиваемых ими прихожан дворянина Якова Иванова Халембека, Иосифа Яковлева Курмановича и Александра Иосифова Соболевского, подписанный Акт через Слуцкое полицейское управление, в Минское губернское правление, а копию с надлежащего Акта в Таврическое магометанское правление.

Подлинный подписали: коллежский советник Салих Яковлевич Богданович, дворянин Александр Иосифов Соболевский, коллежский асессор Сулейман Яковлев Александрович, дворянин Александр Яльшовский, помещик Яков Иванов Халембек, помещик Матвей Александров Корицкий, Иосиф Хазбиевич, коллежский секретарь Александр Яковлев Александрович, дворянин Адам Иосифов Солтан, дворянин Лев Хазбиевич, Иосиф Богушевич, дворянин Матей Курманович, Самуил Корицкий, Бекир Александрович, дворянин Матей Козакевич, дворянин Адам Александров Мусич, Халиль Корицкий, Иосиф Байрашевский, Степан Козакевич, Адам Курманович, Давид Байрашевский, Александр Козакевич, Иван Козакевич, Матвей Байрашевский, Матвей Александров Яломовский, Степан Яковлев Алесандрович, дворянин Иван Абрагамов Полторжицкий, дворянин Бернард Козакевич, дворянин Иосиф Яковлев Курманович, дворянин Степан Байрашевский, дворянин Александр Самуилов Корицкий, дворянин Доменик Халембек, дворянин Иосиф Иванов Халембек, дворянин Адам Абрагимович, дворянин Михаил Абрагимович, дворянин Степан Козакевич, Адам Байрашевский, Яков Козакевич, Матей Байрашевский, Ибрагим Абрамович, дворянин Сюлейман Алесандрович, Мустаф Ясинский, Алесандр Александрович, дворянин Самуил Корицкий, дворянин Иван Корицкий, дворянин Алесандр Степанов Корицкий, дворянин Алесандр Иосифов Соболевский, Степан Александров Корицкий, Абрагам Александрович, Яков Александрович, Сулейман Мусич, Яков Байрашевский, Амурат Абрамович, Куба Байрашевский, Куба Ясинский, Куба-Муха, Куба

Александрович, Хасень Александрович.

Подпись означенных лиц подписом и приложением казённой печати удостоверяю Декабря 4 дня 1882 года Пристав 2 Стана Слуцкого уезда

Соболевский М.П.

---

Копія Акта зроблена, верагодна, у 19 стагоддзі. Але чаму няма дакладнай даты Акта ? Неахайнасць таго, хто рабіў копію ? А можа сходу не было, а подпісы збіралі па дамах ?

## ЭСКАДРОН ТАТАРСКІХ УЛАНАЎ У ВАЙНЕ З НЕМЦАМІ Ў 1939

Татарскі уланскі эскадрон быў у складзе 13-га палка Віленскіх уланаў, месцам пастаяннай службы якога ў мірны час была Новая Вілейка каля Вільні. Базай для фарміравання асабовага складу з"яўлялася татарскае насельніцтва, якое жыло на тэрыторыі Польшчы да 1939 года. Але гэта не значыць, што ў складзе эскадрона не было прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцей — палякаў, беларусаў, украінцаў.

У час абвяшчэння мабілізацыі 24 жніўня 1939 г. ў эскадроне служылі камандзір эскадрона — ротмістр Аляксандр Ельяшэвіч, камандзірамі аддзяленняў — Ян Ассановіч, Аляксандр Халецкі, Мацей Гембіцкі, Якуб Якубоўскі, Мацей Смольскі, Аляксандр Рафаловіч і інш.

Перад выхадам на месца дыслакацыі замянілі карабіны на новыя, выдалі на кожны ўзвод па аднаму супрацьтанкаваму ружжу ( тады гэта была сакрэтная зброя ), усім выдалі новае абмундзіраванне і добры абутак. Затым эскадрон пагрузіўся ў вагоны на станцыі Безданы каля Вільні і 27 жніўня накіраваліся па трасе Ліда — Ваўкавыск — Чарэмха — Седльцы — Варшава і далей на Лодзь.

Выгрузіўся эскадрон у ноч з 30 на 31 жніўня ў лесе за станцыяй Галкувэк паміж гарадкамі Галкув і Юстынув. Тут жа затрымаўся і увесь 13-ы полк Віленскіх уланаў. На гэтым месцы і застаў іх першы дзень вайны.

Першага верасня у 17 гадзін атрымалі загад пераходу усей Віленскай брыгады кавалерыі, у склад якой уваходзіу і 13-ы полк, у раён Пётрка Трыбунальскага. На досвітку 2 верасня дайшлі да Пётркава і занялі абарону на поудзень ад возера Бугай і да вёскі Мошчэ. А у ноч з 3 на 4 верасня новы пераход на паудневы усход ад Пётркава Трыбунальскага і заняцця абароны на ускраіне лесу уздоуж дарогі Пётркув — Любень. На гэтым месцы адбыліся першыя баявыя сутычкі кавалерыі з механізаванымі патрулямі 1-й танкавай дывізіі немцау.

Татарскі эскадрон знішчыу механізаваны патруль немцау, які меу намер фарсіраваць раку Люцеж. Пятага верасня атрымалі загад разам з галоунымі сіламі Віленскай брыгады кавалерыі адыйсці за раку Піліцу і арганізаваць абарону пераправы у Сулеёве. Гэты марш быу выкананы ноччу з 5 на 6 верасня, і воіны затрымаліся у лесе на усход ад Сулеёва. А тут новы загад — адступаць далей у раён Апочна. У час гэтага пераходу на золаку 7 верасня эскадрон дау бой моцнаму механізаванаму атраду ворага, у выніку чаго спыніу далейшы рух, але і сам не далічыуся чатырох уланау. Хутка ужо перарвалася лучнасць камандавання 13-га палка з камандаваннем брыгады. Гэта ужо быу перыяд агульнай хвалі адступлення да Віслы разбітай арміі, якую праследавалі танкава-механізаваныя часці немцау.

Восьмага верасня 13-ы полк дайшоу да гарадка Пшытык, дзе трапіу пад бамбёжку. Адчувауся недахоп харчовых прыпасау і фуражу для коней. Восьмага верасня пасля палудня 13-ы полк накіравауся у Едлінск, далей у раён Рычывула, дзе непадалёк ад Мацяёуцау быу адзіны драуляны мост цераз Віслу, а 13-ы полк і у яго складзе татарскі эскадрон уланау накіравауся па заходнім беразе Віслы на поунач. Дзевятага верасня яны трапілі пад бомбавы удар нямецкай авіяцыі, панеслі вялікія страты, былі рассеяны. Усе, хто заставауся ( у тым ліку і татарскі эскадрон ), працягвалі пераход і 10 верасня каля вёскі Вельколяс пачалі пераправу на дзвюх лодках цераз Віслу. Але і тут ім не было спакою ад нямецкай авіяцыі. Вялікая колькасць коней і людзей была патоплена, забіта, паранена. Толькі нямногім удалося пераадолець Віслу. Ужо не было ніякай арганізаванасці. На усходнім беразе ротмістр Ельяшэвіч змог сабраць толькі 30 уланау. Пасля пераправы цераз Віслу Віленская брыгада кавалерыі перастала існаваць як баявая адзінка. Татарскі эскадрон далучыуся да 4-га палка і ноччу з 10 да 11 верасня пачау марш на Коцк. 12 і 13 верасня на поудзень ад Коцка пачалі

збіраць з асобных рассыпаных часцей новую брыгаду, якая 14 верасня дасягнула ваколіц Сьвідніка. Быў арганізаваны зводны эскадрон татарскіх уланаў, які з 15 па 18 верасня забяспечыў пераход брыгады ў напрамку Травнікі — Пяскі Лютэраньске. 19 верасня ( тут трэба нагадаць, што паводле дамовы Молатаў — Рыбентроп Чырвоная Армія перайшла савецка-польскую граніцу і займала Заходнюю Беларусь і Заходнюю Украіну ) кавалерыйская брыгада ( і ў яе складзе татарскі эскадрон ) правяла пераможны бой з аховай нямецкай калоны грузавых аўтамабіляў, у выніку чаго былі ўзяты палонныя і некалькі аўтамабіляў. У гэтым баі вызначыліся уланы пад камандай ротмістра Ельяшэвіча. 20 — 23 верасня зводны эскадрон татарскіх уланаў, будучы ў авангардзе брыгады, без карты і ў тыле занятай немцамі тэрыторыі з поспехам забяспечваў заданне. Але 23 верасня пад Сухаволяй прышлося сутыкнуцца з часцямі 68-й нямецкай пяхотнай дывізіі, падмацаванай артылерыяй. Гэта была вельмі зацятая і крывавая бітва -- самая цяжкая, якую правёў татарскі эскадрон за ўвесь час баявых дзеянняў у верасні. Вялікія страты нанесла артылерыя і мінамёты праціўніка. Былі разбіты рэшткі абозу. Ад зводнага эскадрона засталося пару дзесяткаў уланаў. Некаторыя з іх страцілі кантакт з камандзірам эскадрона Ельяшэвічам і прабіраліся на ўсход самастойна, але, напароўшыся на ворага, загінулі. Астаткі эскадрона на чале з ротмістрам Ельяшэвічам далучыліся да Навагрудскай брыгады кавалерыі, якая накіроўвалася на поўдзень з мэтай перайсці ў Венгрыю. Гэта быў марш начамі па бездарожжы з бясконцымі сутычкамі з нямецкімі патрулямі і часцямі. Сілы людзей і коней былі вычарпаны. Афіцэры і уланы страцілі пачуццё часу і напрамак руху. Прабіцца праз шашу Мосьціска -- Пшэмысль не ўдалося, і камандзір палка 28 верасня прыняў рашэнне аб роспуску астаткаў палка.

Перад рэшткамі эскадрона татарскіх уланаў, якія вытрымалі да канца, выступіў ротмістр Ельяшэвіч і ў кароткай прамове абрысаваў безнадзейную сітуацыю, у якой яны апынуліся, падзякваў за службу і давёў да іх рашэнне камандзіра палка аб роспуску падраздзялення. Уланы раз"ехаліся хто куды, а афіцэры палка і ротмістр Ельяшэвіч засталіся, каб знішчыць дакументы, закапаць зброю. У гэты час яны былі акружаны немцамі і ўзяты ў палон.

Частка уланаў далучылася да іншых вайсковых груповак і далей яшчэ змагалася супроць немцаў. Але гэта былі ўжо апошнія высілкі рэгулярных часцей польскага войска.

У складзе эскадрона татарскіх уланаў у гэты час служыў і татарын з Клецка Абрамовіч Мустафа, сын Абрагама ( Ібрагіма ). Ён прайшоў усю верасНёўскую кампанію, а пасля роспуску эскадрона накіраваўся на радзіму, да сваіх бацькоў, братоў і сясцёр, якія жылі ў Клецку. Заходняя Беларусь ужо была занята Чырвонай Арміяй і не сутыкнуцца з ёю яму не ўдалося — яго зараз жа ў дарозе арыштавалі як вайскоўца польскай арміі, не звяртаючы ўвагу на тое, што ён просты салдат, што ён мясцовы жыхар і што яго бацькі недалёка. Як палонных ( хоць яны не ваявалі супраць Чырвонай Арміі) яго і іншых польскіх вайскоўцаў павезлі на ўсход, і толькі пасля нападу немцаў на Савецкі Саюз і пачатку фарміравання польскай арміі на тэрыторыі СССР Мустафа Абрамовіч трапіў у армію Андэрса, а з ёю цераз Іран у Італію, дзе ваяваў супраць фашыстаў.

Пасля вайны пасяліўся ў Англіі, працаваў шахцёрам, цяпер на пенсіі. Мае добрую сям"ю — шлюб узяў з татаркай са Слоніма, якая таксама воляю лёсу апынулася ў Італіі. І вось цяпер, як пенсіянер, можа дазволіць сабе рабіць візіты да сваіх родных у Амерыку, Турцыю, Польшчу і ўжо некалькі разоў на сваю бацькаўшчыну — Беларусь. Бацькоў яго, на жаль, ужо няма ў жывых, але тры родныя браты жывуць у Клецку, а сястра — ва Уздзе. Тут жывуць яго стрыечныя браты і сёстры, шматлікія пляменнікі і пляменніцы. Ёсць пра што ўспомніць і пагаварыць.

## У КРАІНЕ РУЖАЎ

У татарскім часопісе "Идел " ( "Волга" ) № 3 — 4 за 1992 г. надрукаваны нарыс татарскага пісьменніка Таўфіка Айды пад назвай "Хмара над краінай ружаў". Урывак з гэтага нарыса ў перакладзе Фаяза Фаізава змяшчаем для чытачоў "Байрама".

...

... Як толькі група балгарскай моладзі наблізілася да нас, мае балгарскія гаспадары — татары Фаціма і Сагадат перасталі размаўляць па-татарску.

— Пачуюць — пакараюць вялікім штрафам за тое, што не размаўляем на "роднай балгарскай мове". У час кампаніі балгарызацыі, —

працягвау Сагадат, — пацярпелі галоўным чынам туркі, тарары і іншыя не балгары. Для чаго патрэбна было мабілізаваць войска, міліцыю, дзяржбяспеку і з іх дапамогай браць "у кальцо" тыя паўднёвыя акругі, дзе пражывае турэцкае і татарскае насельніцтва ? Навошта было ўводзіць у кожны горад, у кожны населены пункт гэтых акруг танкі і браневікі, страляць начамі з гармат, кулямётаў і аўтаматаў, а ранкам забіраць многіх мусульман на допыты, застрашваючы і збіваючы іх ? Нарэшце, як зразумець масавыя рэпрэсіі супроць "непакорных", якіх замыкалі ў турмы, забівалі ?! Зразумей, што балгарызавалі не толькі тых, хто гэтага жадаў. Усяго за некалькі дзён на сто працэнтаў быў выкананы загад аб замене турэцкіх і татарскіх імёнаў на балгарскія. Такога адкрытага расізму не ведалі і пры Сталіне. Гэта нават горш, чым суцэльная калектывізацыя. Такога варварства, здаецца, не было яшчэ ні ў адной краіне свету ! Чаго толькі ні дазваляла сабе ў тыя дні міліцыя, якую сабралі з іншых акруг. Яны ўрываліся начамі ў хаты з вобыскам, кідалі на падлогу і тапталі ботамі грампласцінкі з турэцкімі мелодыямі, палілі турэцкія кнігі ...

За некалькі месяцаў да гэтай варварскай акцыі ў сродках масавай інфармацыі, на сходах працоўных калектываў рэзка ўзмацніліся антытурэцкія настроі, выкрывалася і асуджалася "турэцкае іга". Пераможнае зімовае наступленне, якое пачалося ўслед за гэтай прапагандысцкай акцыяй, захоп паўднёвых акруг і глумленне над тысячамі і тысячамі мусульман, напэўна, пераўзышлі і пакінулі ў сваім цені так шырока разрэкламаваныя "турэцкія зверствы" мінулых стагоддзяў. Турак і татар, якія не жадалі змяньваць імёны, бесцырымонна выцягвалі на вуліцу, або, выламаўшы дзверы і выбіўшы шыбы, палівалі зімнай вадой, і многія гінулі ад пераахаладжвання, у тым ліку дзеці, старыя ... Ды ці аб усім раскажаш — цяжка гэта ...

— Савецкая прэса нічога не пісала аб гэтым.

— Ды як жа яна магла пісаць ? — Сагадат хвіліну памаўчаў. — Думаеце, Жыўкаў асмеліўся б пры моцнай Турцыі пайсці на такі крок без ведама і дазволу Канстанціна Чарненкі ? У тыя чорныя дні каля балгарскіх берагоў былі савецкія ваенныя караблі. Для чаго патрэбна было засяроджваць савецкія караблі ў непасрэднай блізкасці ад Турцыі ? Верагодна, што калі б туркі паспрабавалі абараніць сваіх супляменнікаў ад рэпрэсій, то на Турцыю ў наступ-

ленне пайшло бы не толькі балгарскае войска, але і, магчыма, савецкія ваенна-марскія сілы. У тыя дні прэса не пераставала паказваць "мілітарысцкае нутро" Турцыі, а стаpалася адцягнуць міжнародную грамадскасць ад балгарызацыі мусульман. Адным словам, атрымалася так, што бандыт распраўляўся са сваей ахвярай, ды яшчэ крычаў пры гэтым: "каравул !"

— Куды ж глядзелі краіны дэмакратычнай Еўропы ?

— Па-першае, яны ў асноўным належаць да хрысціянскага свету, таму спачатку не спяшаліся. Затым усё ж заявілі пратэст. Але нават Турцыя не перапыніла сваіх дыпламатычных зносін з Балгарыяй. Толькі турэцкае консульства ў Бургасе зняло са свайго будынка нацыянальны флаг, вывесіла флаг чорны і пакінула краіну. Кіраўнікі Турцыі намагаліся прыцягнуць да адказу расістаў 20-га стагоддзя, паставілі гэта пытанне ў ААН ...

У СССР упершыню пра злачынствы супраць балгарскіх мусульман было упамянута толькі двума гадамі пазней, у канцы 1987 года ( як з жніўня 1939 года да пачатку Вялікай Айчыннай вайны прэса амаль не ўпамінала пра злачынствы фашысцкай Германіі супраць народаў акупаваных краін — заўвага рэд. ). Але якое гэта было ўпамінанне ?.. Яно убачыла свет у 52-м нумары закрытага штотыднёвіка "Атлас", які друкаваў зарубежныя звесткі пад эгідай ТАСС. Штотыднёвік тыражом 9150 паасобнікаў выходзіў з паметай "для службовага карыстання". Нягледзячы на другі год перабудовы ( на чале яе стаяў лаўрэат Нобелеўскай прэміі Міхаіл Гарбачоў ) у матэрыялах "Атласу" хлусня была перамешана з праўдай. Гаварылася, напрыклад, пра панцюркізм, пра турэцкую пагрозу Балгарыі у выглядзе паўтору "кіпрскага варыянта", пра мілітарызм Турцыі. Супраціўленне балгарскіх мусульман замене іх іменаў і прозвішчаў выдавалася за праяўленне нацыяналізму", непавагу да урада Балгарыі. Больш таго, Турцыя абвінавачвалася у нежаданні паляпшаць адносіны з Балгарыяй — і гэта пасля таго, як у Краіне Ружаў была растаптана чалавечая годнасць мільёна з лішнім мусульман ! Божа, павінен жа быць канец гэтай хлусні !

Сагадат пачаў называць татарскія сёлы у Балгарыі: Алашы, Байпынар, Карабакыр, Кадыкэй, Сулейманнык ... — усяго дваццаць два аулы ! Палавіна з іх уваходзіць у Талбухінскую акругу, астатнія ў Варненскай, Плевенскай, Рускай, Сілестраўскай, Шуменскай акругах. Шмат татар у гарадах Балычка, Каварна, Русе, Талбухін...

Сагадат многа паездзіў, таму дакладна ведае, колькі дамоў у кожным татарскім ауле, колькі татар там жыве.

Калі ў людзей гвалтоўна адбіраюць імёны і прозвішчы, то ці стануць цырымоніцца з назвамі татарскіх сёлаў ? У адзін "цудоўны" дзень татары даведаліся, што яны жывуць у сёлах Белгародзец, Срэдыштэ, Люлякава, Капітан Дзмітроў, Спасава. Каб "татарва" не забывала, як іх цяпер клікаць, новыя ( хрысціянскія ) імёны павінны былі быць напісаны на браме. Не напішаш — штраф.

Мы з Сагадатам едзем па вузкай дарозе. Нас суправаджае мора, неабдымнае, прывабнае. Горача. Рашылі пакупацца. Спыніліся каля адной утульнай ціхай бухты, Плюхаемся ў ваду. Добра! .. Прахалода прыемна разліваецца па целе.

Бераг тут умацаваны трохкутнымі бетоннымі плітамі, якія ўваходзяць проста ў ваду. Гэта добра. Вылез на бераг і раптам ... бачу на мокрых плітах нейкія знакі. Дык гэта ж паўмесяц і арабскія літары ! Надмагіллі ! Як жа яны апынуліся тут ?

Сітуацыю праяснііў Сагадат.

— Такіх пліт не толькі на ўзбярэжжы многа. Шматлікія мусульманскія мізары былі разбураны бульдозерамі, а пліты з паўмесяцам і арабскімі літарамі выкарыстаны для пакрыцця дарог, узвядзення розных пабудоў і ўмацаванняў узбярэжжа.

— Як так ? ..

— А вось так... На думку жыўкавістаў, ад мусульманства ў Балгарыі і звання не павінна застацца, быццам і не было ніколі ў краіне ні туркаў, ні татар...

Балгарскіх мусульман забаронена хаваць па законах Ісламу. Калі памерлага мусульманіна не пакладуць у труну, то міліцыя не пусціць пахавальную працэсію на мізар. Больш таго, мусульманскія малітвы павінны чытацца на балгарскай мове. У час святаў і іншых застолляў міліцыя сачыла за тым, каб не размаўлялі, а тым больш не пелі па-турэцку ці па-татарску. Хто парушыць забарону, таго аштрафуюць ці забяруць у кутузку. Вось так разумеюць волю жыўкавісты.

---

У верасні закончыўся суд над Жыўкавым. Асудзілі яго толькі як злодзея. А што ён быў душагуб, дык гэта, відаць, дробязь.

# ЙОЗАС ЯНУШОЎСКАС — НАШ БРАТ-МУСУЛЬМАНІН З ЛЕТУВЫ

У пачатку гэтага года я пазнаёміўся з дэлегатам установчага з"езду Уммы татараў-мусульман Летувы, Беларусі і Польшчы Йозасам. Мне ўпершыню надарылася пагаварыць з татарынам, які нарадзіўся і вырас у глыбіннай Летуве ( цікра летува, як называюць яе летувісы, што жывуць на Свянцяншчыне ). Мой субяседнік добра разумее беларускую мову, але сам гаворыць са мною на рускай мове, у якой адчуваўся акцэнт роднай яму літоўскай мовы.

Йозас расказаў, што нарадзіўся ён у вёсцы Вайкуцішкі Алітускага павета у 1924 годзе. Хадзіў у літоўскую школу у мястэчку Бутрымоніс, а па-свойму, гэта значыць па-арабску Іслам вывучаў у вёсцы Райжай пры мячэці. Працаваў на бацькавай зямлі. У 1944 годзе быў мабілізаваны і тры гады служыў у Савецкай Арміі.

Калі ж у гаспадароў адабралі зямлю і стварылі калгасы, ён пайшоў вучыцца на агранома. З 1952 года працаваў у селскагаспадарчым аддзеле ў Вільнюсе, затым у МТС, у цяплічным камбінаце ( татары — прыроджаныя агароднікі ) па спецыяльнасці. У 1973—1979 кіраваў справамі жылога фонду, загадваў гаспадаркай птушкафабрыкі. Па стану здароўя ( быў цяжкі інфаркт ) пайшоў на адпачынак. Але цягне да зямлі. Мае сад і агарод, вырошчвае кветкі. Актыўна працуе ў Вільнюскім татарскім згуртаванні.

Я папрасіў Йозаса назваць прозвішчы знаёмых яму татар. Ён назваў 12 вёсак, дзе жылі татары, якіх ён добра ведаў ( даруйце, можа некаторыя прозвішчы крыху падпсаваў). Гэта Абунявічус, Адамавічус, Александровічус, Амбаевас, Асанавічус, Базароўскас, Базаравічус, Байрашаўскас, Багданавічус, Бучацкас, Вільчынскас, Джанаявічус, Ільясэвічус, Йозапавічус, Канарскас, Радлінскас, Раманоўскас, Раткявічус, Рызванавічус, Сіліманавічус, Халецкас, Хазбеявічус, Шагунявічус, Янушоўска , Якубаўскас, Ясінскас, Яблонскас. Цяпер з"явіліся татары з Крыма, Татарстана, Башкірыі.

Чытачы звярнулі, відаць, увагу на тое, што прозвішчы падобныя на прозвішчы беларускіх татараў, а што у канцы прозвішча вымаўляецца гук С, то гэтага патрабуе літоўская граматыка. Усе словы мужчынскага роду канчаюцца на С.

Цікава ведаць, колькі прозвішчаў маглі б вы згадаць ?

ВЕСТКІ РАДАСНЫЯ

Утварылася татарская сям"я — пабраліся Таня Канапацкая ( дачка Софіі і Браніслава са Смілавічаў ) і Ігар Багдановіч ( сын Эммы і Бікіра з Ляхавічаў ). Маладыя жывуць у Менску. Жадаем ім сто гадоў жыцця, тузін дзяцей і капу ўнукаў.

Яшчэ адна татарская сям"я з"явілася у Навагрудку. Таня Лебедзь ( дачка Мяр"емы і Ісмаіла ) дала згоду стаць жонкай Якуба Александровіча ( сына Галіны і Іосіфа з Клецка ). Жадаем маладым вечнай любові, радасці, многа дзяцей і унукаў ( колькасць не абмяжоўваем ).

У сям"і Зухры і Аляксандра у Менску нарадзілася дачушка, якой далі прыгожае імя Дзінара. Такім чынам у Эльміры Багдановіч з"явілася сястрычка і сяброўка. Радуюцца гэтай прыемнай падзеі дзядулі і бабулі, прадзед Мустафа з Ляхавічаў. Няхай жа расце Дзінарачка здаровенькай і шчаслівай.

ВЕСТКІ СУМНЫЯ

Скажы: ІННА ЛЕЛАГІ ЎА ІННА ЛАГУ РАДЖЫУН

( Мы усе належым Аллагу і да Яго вяртаемся )

5 красавіка памёр у весцы Пукелеўшчына Нясвіжскага раёна добры мусульманін — Іосіф Халембек — сын Софіі і Якуба. Нарадзіўся у бежанстве у Смаленску ( бацькі яго з Іванава на Меншчыне ), пражыў 76 гадоў. Засталіся жонка Софія Аляксандраўна, дачка Софія, сыны Аляксандр і Іосіф, унучка і унук. Пахаваны Іосіф Аляксандравіч на Асмолаўскім мізары.

У лютым гэтага года ва узросце каля 80 гадоў памер Азіз Асманавіч Сайдашаў. Нарадзіўся у Сімферопальскай губерні, пахаваны на Ляхавіцкім мізары. Засталіся дзеці, унукі і праўнучка.

13 мая на 78 годзе жыцця перастала біцца сэрца Аніфы Гулякевіч ( дзявочае прозвішча Александровіч ), дачкі Евы і Хасяня. Нарадзілася і пахавана ў Капылі. Засталіся дочкі Галіна і Вольга, сын Алег, 3 унучкі і 3 унукі.

10 ліпеня на 97 годзе жыцця памерла Галія Александровіч, дачка Евы і Ібрагіма. Нарадзілася у Менску, пахавана на Смілавіцкім мізары. Засталіся дочкі Марыя і Роза, 6 унукаў і 6 праўнукаў.

15 ліпеня на 84 годзе жыцця памерла Галіна Александровіч ( дзявочае прозвішча таксама Александровіч ), дачка Халімы і Якуба. Нарадзілася і пахавана ва Уздзе. Засталіся муж Браніслаў Якаўлевіч, дочкі Айша і Халіма, сын Мустафа, 3 унучкі і 2 унукі.

---

Тыя, хто ўмее па-мусульманску, прачытайце за душы памерлых добрых мусульман суру Я-Сін з Кур"ана.

Дуа за душу памерлай жанчыны:

"Аллаху́ма и́гфир лиха́йййина ва мейййити́на ва шахи́дина ва гайи́бина ва саги́рина ва кяби́рина ва закири́на ва унса́на. Аллаху́ма ман ахйа́йтаху ми́нна фа ахйи́ху 'а́ля ль-исля́ми ва мантатаваффе́йтаху ми́нна фа тава́ффаху 'а́ля ль-имани. Аллахума ин кя́нат ха́зихи ль-ме́йййитату му́хсинатан фа зид ихса́ниха ва ин кя́нат муси́атан таджа́ваз 'а́нха. Алла́ху а́кбар !"

Дуа за душу памерлага мужчыны:

"Аллаху́ма и́гфир лиха́йййина ва мейййити́на ва шахи́дина ва гайи́бина ва саги́рина ва кяби́рина ва зака́рина ва унса́на. Аллаху́ма ман ахйа́йтаху ми́нна фа ахйи́ху 'а́ля ль-исля́ми ва ман таваффе́йтаху ми́нна фа тава́ффихи 'а́ля ль-има́ни Аллаху́ма ин кя́на ха́за ль-ме́йййиту му́хсинан фа зид фи ихса́нихи ва ин кя́на муси́ан фа таджа́ваз а́нху Алла́ху а́кбар !"

Гэтыя дуа перадрукаваны з кнігі "В молитве спасение", якая надрукавана ў Маскве ў 1991 годзе.

Выданне Маскоўскай саборнай мячэці. Адказны рэдактар Імам-Хатыб Маскоўскай саборнай мячэці Равіль Хазрат Гайнутдзін

# ПЕРШЫЯ КРОКІ

Нашы чытачы ўжо ведаюць, што ініцыятыўная група татараў-мусульман наважылася распачаць працу над стварэннем энцыклапедычнага даведніка пра татараў-мусульман Беларусі, Літвы і Польшчы. У гэтым нумары "Байрама" мы адважыліся надрукаваць слоўнік ( назвы будучых артыкулаў ) на літару А, а таксама некалькі артыкулаў, якія лічым пробнымі.

У слоўніку вельмі значная колькасць артыкулаў рэлігійнай тэматыкі. У далейшым, пры дапрацоўцы слоўніка, спадзяемся, будзе ўключана многа артыкулаў з гісторыі і культуры.

Падставай для слоўніка паслужылі:
артыкул Алі Варановіча "Рэшткі татарскай мовы ў літоўскіх татараў", надрукаваныя ў "Татарскім рочніку" да Другой сусветнай вайны, а таксама артыкул Шырын Акінэр, надрукаваны на англійскай мове ў Лондане ў 1973 годзе.

Большасць тэрмінаў па рэлігійнай тэматыцы зачэрпнута з даведачнай літаратуры пра Іслам, з кнігі Гуляма Сарвара "Іслам для дзяцей", выданай у Вене і Варшаве ў 1990 годзе.

Вельмі істотна дапамаглі нам манаграфіі, якія надрукаваны ў Варшаве і дасланы нам нашымі супляменнікамі. Каля многіх назваў артыкулаў стаяць прапісныя літары і лічбы. Гэта скарочаная назва аўтара ці аўтараў і нумар старонкі, дзе надрукавана пэўная інфармацыя пра падзею, чалавека.

БД — Пётр Бараўскі і Аляксандр Дубіньскі "Польскія татары. Гісторыя, абрады, легенды, традыцыі", 1986;
ЯТ — Ян Тышкевіч "Татары ў Літве і Польшчы", 1989;
АМ — Алі Міськевіч "Польскія татары 1918 — 1939", 1990;
Г — Зыгмунт Глогэр "Ілюстраваная старапольская энцыклапедыя", Т.І—4, 1958.

Паспрабуем растлумачыць нашым чытачам, якія былі падставы ў складальнікаў слоўніка ўключыць пэўныя артыкулы. Практыка паказала, што найчасцей чытач лічыць, што калі нейкі тэрмін яму не спатрэбіцца, то і для іншых ён будзе непатрэбен. Параімся перш за ўсё пра такія, не бяспрэчныя тэрміны

Здарылася так, што першае слова у нашым слоўніку — аль-ААРАФ, назва 7-й суры з Кур"ана. Мяркуецца, што будзе надрукавана не сама сура, а толькі невялікі, але неабходны для нашага чытача каментарый. Зробіць яго, відаць, араб-мусульманін.

АБ'ЯДНАНЫЯ АРАБСКІЯ ЭМІРАТЫ. Татары-мусульмане цікавяцца усімі мусульманскімі краінамі, а таксама іншымі краінамі, у якіх спрадвеку жывуць мусульмане. Арабскія Эміраты прыязна адносяцца да нашых татараў, аказваюць нам інтэлектуальную і матэрыяльную дапамогу.

АГЛАНЧЫК, АДЖАМ, АКЫК. Гэтыя словы захаваліся у нашых кітабах. Сэнс слова АКЫК незразумелы, АДЖАМ,-магчыма, манера пець малітву на персідскі лад, АГЛАНЧЫК, юнак, свавольнік, ці не падобнае да рускага слова "оголец"? Як вядома, археолагі не пакідаюць без увагі любы кавалачык разбітага посуду, калі на ім хоць нейкі ўзор ці літара. Можа дасведчаны чытач нашага слоўніка разгадае гэтыя і падобныя ім словы і напіша карысныя і цікавыя артыкулы.

У розных энцыклапедыях, тлумачальных і перакладных слоўніках трапляюцца тэрміны з паметай цюркскае. Найчасцей гэта татарскае слова, ці перададзенае татарамі з іншых моў. У нашым невялічкім слоўніку на літару А трапіліся АДАМАШАК, АЕР, АРМЯК, АЛЬКОВА, АНДЗЯР, АТАМАН і інш І хоць большасць такіх слоў зразумелы для беларускага чытача, але варта расказаць, калі і як яны прыйшлі у беларускую мову. Слова АТАМАН роднаснае слову ГЕТМАН, а гетман асацыіруецца з нямецкі словам, бо тут ёсць ман — чалавек. Аказваецца, што гэта татарскае слова, аб чым давёу яшчэ ў мінулым стагоддзі З.Глогэр. Дык дзеж нам шукаць тлумачэнне такіх слоў, як не у татарскім энцыклапедычным даведніку.

Князі, каралі, цары. На гэтай зямлі, дзе мы даўно жывём, князёў-уладальнікаў, а тым больш каралёў і цароў татарскіх не было. Але ж беларускія князі, польскія каралі і рускія цары вырашалі наш лёс. Добрымі ці не надта добрымі адносінамі да татараў яны увайшлі у нашу гісторыю. Ды і набярэцца такіх артыкулаў не так ужо многа, можа паўкапы.

АХМАТ КАРАЧАЙ. Якія у яго заслугі, каб трапіць у энцыклапе-

дычны артыкул ? У час вайны трапіў чалавек у палон. Калі гэта быў багаты, знатны чалавек, то яго трымалі ў палоне, покуль радня ці нейкі багаты і добры чалавек не аддасць патрэбную суму. Для палонных у некаторых магнатаў былі абсталяваны падзямеллі-лёхі, якія называлі таксама татарнямі ( памятаеце, як у паэме "Курган" сказаў Янка Купала :" Глянь у лёхі свае, у падзямеллі глянь, князь..." ). Нейкі Бахціяр узяў з татарні палоннага, паручыўся за таго. Відаць, рызыка была немалая, але як мусульманін ён зрабіў добры ўчынак для палоннага. Добры ўчынак варты артыкула ў татарскай кніжцы.

Чытачам "Байрама" прапануем некалькі артыкулаў. Напісаны яны на падставе матэрыялаў, якія былі надрукаваны даўно. Прозвішчы аўтараў гэтых матэрыялаў пазначаны ў канцы нашага квартальніка. Некаторыя невялікія артыкульчыкі зроблены па даведніках.

У наступным нумары нашага квартальніка оудзе надрукаваны слоўнік на літару Б, а таксама шэраг артыкулаў для абмеркавання

Добра было бы, каб аўтары з Летувы напісалі і як найхутчэй даслалі ў "Байрам" такія атыкулы:

Вільнюс

Вітаўтас ( можна выкарыстаць матэрыял, які быў апублікаваны да вайны у Вільні у татарскім выданні )

Нямяжыс ( Немеж )

Немежская мячэць

Рэйжы

Навукоўцы з Польшчы дашлюць нам артыкулы

Багонікі, вёска

Азюлевіч Якуб, палкоўнік

Беласток

Беластоцкі джаміят ( Беластоцкая парафія, Беластоцкая гміна )

Гданьская мячэць

Нашы адзінакроўныя браты з Летувы і Польшчы могуць пісаць і дасылаць любыя артыкулы і ў любой колькасці.

За работу, дарагія сябры !

# СЛОЎНІК ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНАГА ДАВЕДНІКА " ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ "

( артыкулы, якія пачынаюцца на літару А )

аль-ААРАФ, 7-я сура з Кур"ана
ААРОН, прарок, гл. Гарун
АБАГАЧАКЧЫ, Той, хто абагачае, адно з імёнаў Аллага, гл. ал-Мугні
АБАЗА, 80-я сура з Кур"ана
АБДАЛЛАГ бен АББАС, стрыечны брат Мухаммеда
АБДУЛЛА ЛІХУШАВІЧ, ЯТ 600
АБДУЛЛАГ, хан, гл. у арт. Залатая Арда, БД 21
АБДЫШ, крымскі татарын на службе ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве ( БЛД ), БД 21
АБДЭСТ, абдэсь, рытуальная чысціня
АБІД, нявольнік
АБЛУДНІКІ, 63-я сура з Кур"ана, гл. ал-Мунафыркум
АБЛЮЦЫЯ, рытуальнае абмыванне цела, гл. Абдэст
АБМЫВАННЕ ПАМЕРЛАГА, БД 177
АБУ БАКР ас-СІДДЫК, першы пасля Мухаммеда халіф
АБУ ЛАХАБ, дзядзька і вораг Мухаммеда
АБУ ХАНІФА, хаснавальнік ханіфіцкага масгабу
АБЧАКОВІЧ Махмет, ЯТ 199
АБЧЭД, пачатковая навука чытання, чытанне па складах
АБ"ЯДНАНЫЯ АРАБСКІЯ ЭМІРАТЫ
АВЕЛЬ, сын Хаввы і Адама, гл. у арт. Кабіл і Хабіл
АГА, па-цюркску "пан"
АГАРОДНІЦТВА І САДОЎНІЦТВА, ЯТ 234, 241, 242, 244, 230, 232, 250; АМ 66, 68; Г, Т.3, 281
АГВАГ, выклічнік
аль-АГЗАБ, 33-я сура з Кур"ана
АГІНСКАГА МАЦЕЯ РЭВІЗІЯ 1559 І ПЕРАПІС 1567, БД 63, 216, 217
аль-АГКАФ, 46-я сура з Кур"ана
АГЛАНЧЫК, хлопец, падлетак
АГЛЕН КАРДЗІШАК, хан, гл. у арт. Залатая Арда
АГЛ ал-БАЙТ, член фаміліі Прарока
АГЛ аз-ЗІММА, інаверцы, якія прызналі ўладу мусульман
АГЛ аль-КІТАБ, людзі Пісання
АГЛ ас-СУННА ва-л-ДЖАМАА, саманазва мусульман-сунітаў

АГЛУ, сын, мужчына
АГЛУ-СУФФА, бедныя паплечнікі Мухаммеда
АДА, адат, даісламскі звычай
АДАН, адэн, рай, гл. ал-Джанна
АДАМ, першы чалавек і прарок
АДАМАНЦЫ, татарская вёска ў Літве, БД 166
АДАМАШАК, шоўкавая тканіна, Г, Т.І
АДАМІН, чалавечы, людскі
АДЖАЛЬ, аджэль, канец, смерць
АДЖАМ
АДЖАРЫЯ, рэспубліка на Каўказе з мусульманскім насельніцтвам
АДЗЕННЕ, ЯТ 43
аль-АДЗІЙАТ, 100-я сура з Кур"ана
АДЗІНЫ, адно з імёнаў Аллага, гл. ал-Ахад
АДКРЫВАЮЧАЯ, І-я сура з Кур"ана, гл. аль-Фаціха
АДЛ, справядлівасць, сумленнасць
ал-АДЛ, адно з імёнаў Аллага — Справядлівы
АДХІЛЯЮЧЫ, Той, хто можа адхіліць непазбежнае, адно з імёнаў Аллага, гл. ал-Муахір
АДЭН, рай, гл. ал-Джанна
АЕР, татарская трава, Г, Т.І
АЕТ, аят, гл. Айа
АЖЫЎЛЯЮЧЫ, Той, хто ажыўляе, адно з імёнаў Аллага, гл. ал-Мухйі
АЗАБ ал-КАБР, малы суд над памерлым, адразу пасля пахавання
АЗАН, прызыў да малітвы у мячэці; наданне імя дзіцяці
АЗАНЧЭЙ, азанджэй, той, хто заклікае на малебен
АЗАР, частка савана
АЗДОБЫ, 43-я сура з Кур"ана, гл. аз-Зухруф
АЗІЗ, ганаровае імя — пераможца над усімі ворагамі
ал-АЗІМ, адно з імёнаў Аллага — Вялікі
АЗІНЭ, пятніца
АЗІРАТ, гл. Мізар
АЗІЯ, частка свету
ал-АЗХАР, ал-Джамі ал-Азхар, мячэць і ВНУ у Егіпце
АЗЮЛЕВІЧЫ, татарскі род, Г, Т.І
АЗЮБЕК САЛТАН, сын шаха Ахмата, родапачынальнік Астрынскіх
АЗЮЛЕВІЧ Якуб, палкоўнік, БД 123, 124, 139

АІН, назва літары, якая азначае мяккі гук А
АЙ, выклічнік
АЙА, ает, аят, найменшы урывак з Кур"ана, верш
АЙАТАЛЛАГ, найвышэйшая духоўная пасада у шыітаў
АЙДАР, прэтэндэнт на пасаду хана, гл. у арт. Крымскае ханства
АЙДАР, палонны татарын, узяты на парукі Шагідэвічам, БД 51
АЙДАР Сумпан, хан, гл. у арт. Крымскае ханства
АЙУБ, Гіоб, адпавядае біблейскаму Іову
АК АРДА, Белая Арда, гл. у арт. Залатая Арда
АКА, Стаянне над Акой у 1480 хана Ахмета і маскоўскай арміі, БД 48
АКІД, іджаб, кабул, кубул, сіга — дамова, замацаваная клятвай
АКІДА, сімвал веры, крэда
АКІНДЭ, пасляпалудзенная малітва
"АКТЫ ВІЛЕНСКАЙ АРХЕАЛАГІЧНАЙ КАМІСІІ" АМ 132
АКШАК, Аксак, татарскі род, Г, Т.І
АКЫК, нешта каштоўнае, адзенне з каштоўнай тканіны
АЛБАНІЯ, дзяржава у Еўропе, мусульманская краіна
АЛЕГ РАЗАНСКІ, саюзнік Мамая
АЛЕЙГІ-ль- ЛЯНАГ, Алейгі-ль- ЛЯВАН, праклясці
АЛЕЙГІ-с-СЕЛЯМ, гаворыцца пры упамінанні імя Прарока
АЛЕЙКУМУ-с-СЕЛЯМ, адказ на прывітанне
АЛЕЙЧЫК, шыт
АЛЕКСАНДРОВІЧ Аляксандр, навуковец, БД 146
АЛКСАНДРОВІЧ Айша, мастачка, грамадскі дзеяч
АЛЕКСАНДРОВІЧ Давыд, удзельнік паўстання 1831, БД 129
АЛЕКСАНДРОВІЧ Дж., навуковец, БД 267; АМ 15, 169, 171
АЛЕКСАНДРОВІЧ Ісмаіл, інжынер, грамадскі дзеяч
АЛЕКСАНДРОВІЧ М., навуковец, БД 267
АЛЕКСАНДРОВІЧ Мустафа, АМ 53, 84, 139, 145, 146, 166, 171, 180, 182, 97, 108, 109, 126, 127, 136
АЛЕКСАНДРОВІЧ Самуіл, член ЗПЛБУ, БД 146
АЛЕКСАНДРОВІЧ Фуад, падпалкоўнік, АМ 32
АЛЕЛЬКАВІЧЫ, нашчадкі Альгерда, ЯТ 132, 138
АЛЖЫР, дзяржава у Афрыцы
ал-АЛІ, адно з іменаў Аллага — Высокі
АЛІ бен АБІ ТАЛІБ, чацверты праведны халіф
АЛІФ, назва першай літары у арабскім алфавіце
АЛЛАГ, Аллах, імя адзінага Бога

АХД, запавет Аллага людзям і абет людзей перад Аллагам
аль-АХІРА, замагільны свет
АХМАД ібн ХАНБАЛЬ, заснавальнік ханбаліцкага мастабу
АХМАДЗІЯ, людзі, якія аддзяліліся ад Ісламу
АХМАТ, хан Залатой Арды, БД 46
АХМАТ, татарскі род у Польшчы
АХМАТ КАРАЧАЙ, палонны татарын на паруках у Бахціяровічаў
АХМАТОВІЧ Аляксандр, старшыня Згуртавання татараў Польшчы, Літвы, Беларусі і Украіны ( ЗТПЛБУ ), БД 146, 267
АХМАТОВІЧ Аляксандр, паўстанец 1863, АМ 19
АХМАТОВІЧ Аляксандр, сенатар, АМ 26, 28—31, 37, 43— 45, 47, 48, 50—52, 72,78, 107, 121, 123, 144, 145, 170
АХМАТОВІЧ Асман, навуковец, АМ 54, 65—76, 166, 176
АХМАТОВІЧ Багдан, член ЗТПЛБУ, БД 146
АХМАТОВІЧ Лявон, хірург, АМ 72, 166
АХМАТОВІЧ Мустафа, палкоўнік, БД 6, 127
АХМАТОВІЧ-КРЫЧЫНЬСКА Марыя, кампазітар, АМ 149
АХОЎВАЮЧЫ, адно з імёнаў Аллага, гл. ал-Мухаймін
АХРЭТАВАННЕ, пабрацімства, БД 198
АХРЭЦЬ, названы брат, пабрацім
АХУТАНЫЯ ПЛАШЧОМ, 74-я сура з Кур"ана, гл. аль-Мудаттар
АХФЭР, від пякельнага агню
АХЧА, дробная манета
АХШАН, ахшам, малітва пасля заходу сонца
АЦКРЭЧВАННЕ АРАБСКІХ СЛОЎ, БД 260
АЧЫШЧЭННЕ ВЕРЫ, 112-я сура з Кур"ана, гл. аль-Іхляс
АШАЛАМЛЯЮЧАЯ, 88-я сура з Кур"ана, гл. аль-Гасія
АШУРА, эшурэ, ноч з 9 на 10 месяца Мухарэма; рытуальная страва з 9-і кампанентаў
АШУРЭЙНЫ БАЙРАМ, Эшурэйны Байрам, жалобнае свята
АЯТ, верш ( фрагмент ) з Кур"ана, гл. Айа

## ПРОБНЫЯ АРТЫКУЛЫ У ЭНЦЫКЛАПЕДЫЧНЫ ДАВЕДНІК " ТАТАРЫ БЕЛАРУСІ, ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ "

АДАМ, першы чалавек, створаны Аллагам, пачынальнік роду чалавечага, прапаведнік і прарок ( расул ) Аллага. Матэрыялам для стварэння Адама паслужыў пыл ( паводле некаторых аятаў з Кур"ана— звонкая гліна ). Аллаг надаў яму форму, даў найлепшую паставу, удыхнуў душу і паставіў сваім намеснікам на зямлі. Ідэя новага стварэння Аллага не вельмі спадабалася ангелам, якія як бы прадбачылі тое, якімі будуць людзі. Яны ( ангелы ) папракалі Аллага: "Паставіш Ты такога, што учыніць смуту на зямлі і пральле кроў. Мы славім цябе Тваей Славай і узносім Тваю святасць". Каб даказаць ангелам вышасць свайго новага стварэння, Аллаг навучыў Адама усім імёнам ( усім назвам прадметаў, стварэнняў і з"яў ), потым Аллаг паставіў носбітаў гэтых імён перад ангеламі і сказаў: " Назавіце Мне іх імёны, калі ваша праўда ". Яны сказалі: " Ты святы. Няма у нас іншых ведаў, апрача тых, чаму Ты нас навучыў; сапраўды, Ты ёсць Усявед і Мудрэц". Аллаг сказаў: "О,Адам, назаві ім іх імёны". І калі ён назваў ім іх імёны, Аллаг сказаў: "Ці не сказаў Я вам, што Я ведаю тайны неба і зямлі, і Я ведаю, што вы хаваеце і чаго вы не хаваеце". Аллаг загадаў ангелам, каб яны пакланіліся Адаму. Усе пакланіліся, акрамя ангела Ібліса. Ён сказаў, што яго стварылі з агню і ён не будзе кланяцца таму, хто зроблены з гліны. За гэта Аллаг прагнаў Ібліса з неба.

Ібліс папрасіў у Аллага адтэрміноўкі далейшага пакарання аж да Суднага Дня. І яму дадзена гэта адтэрміноўка. Тут жа Ібліс абвясціў, што будзе шкодзіць людзям, збіваць іх з дарогі, якая вызначана Аллагам. Адам і створаная для яго Аллагам жонка Хавва былі паселены у раю, дзе маглі спажываць любыя плады. Аллаг забараніў ім падыходзіць да аднаго з дрэў, папярэдзіўшы, што Ібліс будзе іх спакушаць. Ібліс у выглядзе змея нашаптаў Адаму і Хавве, што зведаўшы плады з забароненага дрэва яны стануць падобнымі да ангелаў і будуць жыць вечна. Аллаг жа, як быццам, гэтага не жадае.

Адам і Хавва парушылі запавет Аллага, але вечнымі не сталі, зразумелі, што яны голыя і што гэта сорамна. Сталі шыць сабе вопратку з лістоў. Праступак Адама і Хаввы вельмі разгневаў Аллага. Адам і Хавва былі выгнаны з раю на зямлю, а іх нашчадкі сталі аб"ектам барацьбы паміж Аллагам і Іблісам. Паводле прадказання Аллага

невялікая частка людзей трапіць пад уплыў Ібліса і будзе кінута яшчэ ніжэй, у вогненную геену.

Адам меў вялікую згрызоту, што парушыў запавет Аллага. Ён раскайваўся і прасіў Аллага не астаўляць яго без апекі. Аллаг злітаваўся, абяцаў яму і яго нашчадкам сваю апеку, таму не гледзячы на цяжкі праступак, Адам лічыцца першым прапаведнікам і прарокам.

Паводле шматлікіх і разнастайных мусульманскіх паданняў зямное жыццё Адама і Хаввы звязана з Аравіяй. Гліну ці пыл для стварэння цела Адама і Хаввы Аллаг браў каля Меккі і з Йемена. Пасля грэхападзення Адам апынуўся каля Адэна ( у некаторых паданнях — на востраве Цэйлон, які цяпер называюць Шры Ланка ), а Хавва — каля Джыдды, непадалёку ад Меккі. Можа сто гадоў шукалі адзін аднаго, пакуль сустрэліся каля мекканскіх святых месц — гары Музаліф, у даліне Арафат. Адаму з неба быў пасланы празрысты святы камень. Каб ахаваць гэты камень Адам пабудаваў першы храм — Каабу. З цягам часу святы камень з прычыны грахоўных праступкаў людзей пачарнеў. У Хаввы і Адама нарадзілася 140 дзяцей, штогод былі блізняты — хлопчык і дзяўчынка. Ад іх пайшоў род чалавечы. Першы сын пасправачаўся з малодшым і забіў яго, упершыню пралілася чалавечая кроў ( гл. Кабіл і Хабіл ). Калі Адам і Хавва памерлі, іх пахавалі ў "Пячоры Скарбаў" каля Меккі, а пасля патопу астанкі перанеслі для пахавання ў Ерусалім.

Упамінанне пра Адама гл. ў Кур"ане. Першы лік — нумар суры, пасля двукроп"я — нумар аята (2: 28 — 37; 3: 59; 7: II —.26; I5: 26—35; I7: 63 — 66; I8: 48 і 49; 20: II5 — I25; 95: 4.

"АПОВЕСЦЬ ПРА НЕНАВУЧОНАГА БАГАМОЛЬЦА", павучальны расказ, змешчаны ў крушнянскім Аль-Кітабе. Надрукаваны ў "Рочніку Татарскім" у 1932 г. Кароткі змест паводле Яна Станкевіча ( "Беларускія мусульмане і беларуская літаратура арабскім пісьмом. Вільня, 1933 ): ненавучоны багамолец ішоў у мячэць. Па дарозе была карчма. Калі ён зайшоў у карчму, карчмарка замкнула за ім дзверы і сказала, што выпусціць яго толькі тады, калі ён або адзін куфаль гарэлкі выпʼе, або з ею "волю ўчыніць", або дзіця забʼе. Багамолец падумаў, што найменшы грэх будзе выпіць куфаль гарэлкі. Але як выпіў адзін куфаль, то другога ўжо сам захацеў, упіўся, з карчмаркаю "волю ўчыніў", дзіця забіў. Адгэтуль падвойная навука: трэба цвёрда трымацца мусульманскай веры і не піць гарэлкі.

АСТРЫНСКІЯ, род татарскіх царэвічаў у Беларуска-Літоўскай дзяржаве; адгалінаванне крымскай дынастыі Гірэяў. Герб Астрынскіх ( вядомы па пячатках ) узыходзіць да так званага Тарак-Тамгі, традыцыйнай геральдычнай эмблемы дынастыі Гірэяў з выявай грэбеню ( татарскае — "тарак" ) у выглядзе трызубца. Паходзіць ад царэвіча Дэўлет-салтана — унука хана Хаджы-Гірэя, сына царэвіча Дэўлет"яра. У пачатку 1421 Дэўлет-салтан і яго дзядзька Ізцемір, якія варагавалі з ханам Менглі-Гірэем, выехалі ў Кіеў. У пасланні крымскаму хану вялікі князь Беларуска-Літоўскай дзяржавы і кароль Польшчы Казімір IV абяцаў не выпускаць абодвух царэвічаў за межы сваей дзяржавы і упамінаў аб дараванні ім маёнтка. У канцы 1492 маскоўскі пасол паведамляў пра іх з Крыма, што "те царевичи, сказывают, поженилися в Литве, а отведены с Украины далече вглубь".

Дзякуючы сваяцтву з крымскай дынастыяй, род Астрынскіх некаторы час займаў ганаровае становішча пры двары вялікага князя і быў найбольш уплывовым татарскім родам у Беларуска-Літоўскай дзяржаве. Як і царэвічы Пунскія, Астрынскія да сярэдзіны 16 ст. не ўваходзілі ў склад татарскіх харугваў, не падпарадкоўваліся татарскім харунжым, мелі права ( як князі і паны ) з"яўляцца са сваім атрадам непасрэдна да гетмана.

Найбольш звестак выяўлена пра сына Дэўлет-салтана Азубека-салтана ( Азюбека, Узубека , ? — пасля 1540 ). Упершыню ён упамянуты ў грамаце Менглі-Гірэя 1507 з просьбай да Жыгімонта I Старога вярнуць гэтаму царэвічу "даніну", перададзеную нейкаму "москвитину". У 1514 кароль падараваў Азубеку 70 двароў конюхаў, 2 паробкаў і 6 пусташаў пад Астрынай ( цяпер Гродзенская вобл. ). З таго часу Азубек-салтан і яго нашчадкі ў актах Беларуска-Літоўскай дзяржавы называюцца царэвічамі Астрынскімі ( ад маёнтка Астрына ). У 1531 Азубек атрымаў буйны маёнтак Паложын у Менскім павеце, у 1536 — Сцяпанаўскую зямлю ў Трокскім павеце. Ён таксама валодаў маёнткамі Берастaвіца ( Бжаставіца ) -Бігене ў Ваўкавыскім павеце. Быў дваранінам гаспадарскім, удзельнічаў у цырымоніі абвяшчэння Жыгімонта II Аўгуста вялікім князем ( 1529 ). У свіце Жыгімонта I Старога прысутнічаў на Берасцейскім сойме 1533. Па даручэнню караля неаднаразова выступаў арбітрам і суддзёй у спрэчках літоўскіх служылых татар, выдаваў ім пасведчанні пра шляхецтва, якія пацвярджаліся каралём. Быў жанаты з княжною Зоняй ( Зосяй ) Малікбашаўкай,

якая паходзіла са знатнага літоўска-татарскага роду князёў Шырынскіх. Меў сыноў-царэвічаў Батыр-салтана ( упамянуты ў 1547), Джаная ( упамінаецца ў 1555 — 1572 ) і Чынгіс ( упамінаецца ў 1555 — 1598 ), якія атрымалі па спадчыне бацькоўскія ўладанні. Царэвіч Чынгіс і яго маці ( "царыца Астрынская " ) у 1555 дабіліся ад Жыгімонта II Аўгуста пацверджання на патомнае ўладанне маёнткам Рыча пад Астрынай з умовай ваеннай службе каралю. У 1567 Астрынскі ( магчыма, Чынгіс ) выставіў у войска Беларуска-Літоўскай дзяржавы восем узброеных вершнікаў ( гта значыць па сваіх уладаннях адносіўся да сярэдніх феадалаў ).

У другой палове 16 ст. царэвічы Астрынскія паступова страцілі свае землеўладанні. Паложын прадалі земскаму падскарбію пану Мікалаю Нарушэвічу, Бераставіцу-Бігене — гаспадарскаму маршалку пану Марціну Курчу ( 1588 ). Рыча трапіла ў заклад да земскага падскарбія Дзмітрыя Халецкага. Пасля смерці Чынгіса яго малалетнія дзеці ад шлюбу з княжной Умнай ( Уланай ) Агішаўнай Шырынскай у 1598 атрымалі прывілей Жыгімонта III Вазы, які пацвердзіў іх правы на маёнтак Рыча, а ў 1603 удава царэвіча прадала яго Халецкім. Род царэвічаў згас на дзецях Чынгіса. У польскай генеалагічнай літаратуры і іншых публікацыях пра літоўскіх татараў царэвічы Астрынскія да цяперашняга часу памылкова лічыліся нашчадкамі апошняга хана Вялікай Арды Шах-Ахмата ( Шэйх-Ахмеда ).

АХМАТОВІЧ Асман, сын Эміліі з сям"і Крычыньскіх і бацькі Аляксандра ( 21.03.1899, Бергалішкі на Ашмяншчыне — 4.12.1988, Варшава ), польскі вучоны, выдатны прадстаўнік мусульманскай грамадскасці. Пасля абароны доктарскай дысертацыі у Віленскім універсітэце працягвае вывучэнне хіміі ў Оксфардзе. У гэтай установе атрымаў званне доктара філасофіі. У выніку новых дасягненняў у навуцы ў 1934 прызначаны надзвычайным прафесарам Варшаўскага універсітэта, а ў 1936 дэканам фармацэўтычнага факультэта, а ў 1939 стаў прафесарам звычайным. Прымаў удзел у грамадскім жыцці, выконваў шэраг адказных даручэнняў Культурна-асветніцкага згуртавання татараў Рэчыпаспалітай. У гады Другой сусветнай вайны жыў у Вільні, Варшаве і Чэнстахове, займаўся канспірацыйнай дзейнасцю і тайным навучаннем студэнтаў.

Неўзабаве пасля вайны група прафесараў арганізуе політэхнічны

інстытут у Лодзі, дзе у 1948 — 1952 працуе прарэктарам і рэктарам. У 1952 быў выбраны на пасаду сапраўднага члена Польскай акадэміі навук. У наступным годзе займае пасаду міністра у Міністэрстве вышэйшай адукацыі і знаходзіцца на ёй да 1959 года.

Не спыняў навуковай дзейнасці і працаваў у Варшаўскім універсітэце. Заслугі вучонага былі дастойна адзначаны. Быў узнагароджаны Камандорскім Крыжам Адраджэння Польшчы і Ордэнам Працы I класа. У 1964 атрымаў Дзяржаўную узнагароду I класа "за адкрыццё новых, невядомых да гэтай пары алкалоідаў і даследаванне іх с руктуры". Пасля вайны, з прычыны вялікай занятасці навуковай працай, ён ужо не мог актыўна займацца справамі татараў-мусульман. З архіўных матэрыялаў Асмана Ахматовіча відаць, што ён глыбока цікавіўся мусульманскай грамадскасцю у Польшчы і за яе межамі, асабліва у час выканання абавязкаў пасады дырэктара Інстытута польскай культуры у Лондане. Вялікі уклад зрабіў для ратавання татарскай культуры, рэстаўрацыі мячэцяў у Беластоцкім ваяводстве, аховы мізару у Варшаве. Наведаў Багонікі і Крушыняны, якія нагадвалі яму родную Ашмяншчыну. У памерлага асталіся сыны — Сялім і Асман ( цяпер прафесар ). Пахаваны на мізары у Варшаве, на якім спачывае яго бацька, жонка Гэлена з Станкевічаў, брат Лявон.

ЛЯХАВІЦКАЯ МЯЧЭЦЬ, Ляхавіцкая джамія. Пабудавана у 1815 годзе на сродкі Ляхавіцкага джаміята. Пляц падаравала сям"я Багушэвічаў. Разбурана у час Першай сусветнай вайны у 1915. У 1928 адбудавана на сродкі урада Польшчы, караля Егіпта Фуада I і татараў—выхадцаў з Польшчы, якія пасяліліся у ЗША. Імамам з 1900 быў Давыд Мурзіч. Пасля Другой сусветнай вайны па загаду савецкіх улад мячэць была разбурана.

МАСГАБ ( араб. шлях, па якому трэба ісці ), рэлігійная і прававая школа. Найбольш вядомымі і прызнанымі ўсімі мусульманамі з"яўляюцца ханафіцкі, маліцкі, шафіцкі і ханбаліцкі масгабы ( гл. адпаведныя артыкулы ).

Пасля смерці Мухаммеда межы ісламскай дзяржавы пашырыліся, ішоў працэс масавага прыняцця Ісламу рознымі па узроўню свайго развіцця, традыцый, характару народамі. У сувязі з гэтым з"явілася неабходнасць тлумачэння некаторых аспектаў у дзейнасці таго ці іншага народа, прыняўшага Іслам. Такія тлумачэнні атрымалі назву фік-

ха. Тлумачэнне пэўных аспектаў Ісламу праводзілася на падставе прынцыпаў Кур"ана і Сунны, якія поўнасцю адпавядалі ісламскім нормам і адпаведна прымаліся ўсімі мусульманамі. Чалавек, які займаўся тлумачэннем фікх — факіх.

Найбольш вядомымі і таленавітымі факіхамі, прызнанымі ўсімі мусульманамі, з"яўляюцца чатыры імамы, кожны з складзеных імі фікх быў названы масгаб ( Абу Ханіфа, Малік ібн Анас, аш-Шафіі, і Ахмад бен Ханбал ). Адрозненне паміж масгабамі заключаецца толькі ў тым, што некаторыя нязначныя па сэнсу моманты не заўсёды супадаюць. Такія, як, напрыклад, дзе павінны знаходзіцца далоні верніка ў стаячым палажэнні ў час намазу, у прывядзенні сябе мусульманінам у стан рытуальнай чысціні ( тахара ), ці нязначныя адрозненняў пры выкананні хаджу.

Не заўседы супадаючыя думкі імамаў па тых ці іншых пытаннях можна тлумачыць тым, што прарок Мухаммед афіцыйна не вызначыў, або з той прычыны, што такія указанні не дайшлі, не зберагліся. Зрабіць выснову, што той ці іншы масгаб лепшы або больш правільны, нельга.

ал-МАСДЖЫД ал-АКСА, Далёкая мячэць, мячэць у паўднёвай частцы ал-Харам аш-Шарыф у Іерусаліме, адна з самых славутых святынь Ісламу, якую звычайна атоесамліваюць з "далёкай мячэццю", куды быў перанесены Мухаммед у час Міраджу ( гл. Ал-Ісра ва-л-Мірадж). Часам некаторыя даследчыкі пад назвай гэтай мячэці разумелі ўсю тэрыторыю ал-Харам аш-Шарыф.

Першая, простая па архітэктуры мячэць, пабудаваная ў час праўлення халіфа Умара І у Іерусаліме, была заменена капітальным будынкам пры ал-Валідзе ( 705 — 715 ), неўзабаве разбуранай пры землятрусе. Адбудавана каля 780. Паводле апісання ал-Мукаддасі ( канец 10 ст. ), гэта мячэць уяўляла сабою прастакутны будынак (прыблізна 105 х 70 м ), выцягнуты з захаду на ўсход. Паўднёвай сцяной была сцяна ал-Харам аш-Шарыф; у паўночнай сцяне было 15 дзвярных праёмаў адпаведна колькасці нефаў. Цэнтральны з іх, удвая шырэйшы за астатнія, быў перакрыты двусхільным дахам, каля міхраба знаходзіўся драўляны купал такога ж дыяметра, як цэнтральны неф ( 11 м ).

У 1035, пасля чарговага землятрусу, аз-Захір узнавіў мячэць у межах сямі сярэдзінных нефаў. У гэтым аб"ёме мячэць існуе да нашых дзён.

У пачатку 12-га ст. мячэць стала палацам іерусалімскага каталіцкага караля. У 1128 Балдуін II частку мячэці падараваў рыцарскаму ордэну, які атрымаў назву Храмоўнікаў ( тампліераў ). Пасля выгнання крыжаносцаў ( 1187 ) Салах ад-Дзін аднавіў мячэць, але ад старых будынкаў крыжаносцаў да гэтага часу захаваліся капліца Захарыі ва ўсходнім крыле і рыцарская зала — у заходнім.

У час рэстаўрацыі у 1938 — 1942 рознастылёвыя і розныя па вышыні калоны ў цэнтры мячэці былі заменены аднолькавымі калонамі з карарскага мармуру, пакладзены новыя бэлькі, але агульны воблік мячэці застаўся нязменным.

ал-МАСДЖЫД ал-ХАРАМ, гл. ў арт. ал-Кааба.

МІНБАР, мімбар, трыбуна для імама, муллы ў саборнай мячэці. Устанаўліваецца справа ад міхраба. Першы мінбар быў устаноўлены у мячэці ў Медыне, з якога перад вернікамі выступаў прарок Мухаммед. Другі мінбар быў зроблены ў мячэці ў Куфе пры халіфе Алі ( памёр у 661 ), трэці — у Дамаску пры халіфе Муавійа ( каля 605 — 680 ). У 9 ст. мінбар набывае традыцыйную форму высокай трыбуны з драўляным навесам над верхняй пляцоўкай, арыентаванай у бок вернікаў. У рэлігійнай літаратуры 10 ст. слова мінбар ужывалася таксама ў сэнсе "саборная мячэць" і "горад з саборнай мячэццю".

МІХРАБ, ніша ў сцяне мячэці, якая ўказвае напрамак на ал-Каабу. У бок міхраба паварочваюцца тварам мусульмане, перад нішай стаіць імам, які кіруе калектыўным намазам. Каля міхраба ставіцца мінбар.

ТРОХСОТГОДДЗЕ ПАСЯЛЕННЯ ТАТАРАЎ НА ПАДЛЯШШЫ. Урачыстасць у Саколцы ( Сакулцы ), Багоніках і Крушнянах, якая адзначалася 30 чэрвеня і 1 ліпеня 1979 года. У 1679 кароль Ян III Сабескі пасяліў татарскіх асаднікаў і даў ім за вайсковую службу зямлю у Багоніках, Драглях, Ботчы, Клешчах, Крушнянах, Літвінках, Лужанцы, Лебедзеве, Малявічах, Малашэвічах, Нятупах, Палятычах, Пясках і Рухавічах. Да нашага часу татарскае насельніцтва дажыло толькі у Багоніках і Крушнянах.

Арганізатарамі урачыстасці былі Беластоцкае навуковае таварыства і Сакольскі асяродак культуры. Святкаванне пачалося з навуковай сесіі "Татары у гісторыі і культуры Польшчы", якая адбылася у Са-

колцы. На сесіі прысутнічаў беластоцкі ваявода і прадстаўнікі палітычных партый, адміністрацыя горада і гміны Саколка. Старшынёй прэзідыума быў дырэктар Акруговага музея ў Беластоку доктар Ян Ясканіс. Было прачытана некалькі дакладаў тэматычна звязаных з татарскай грамадскасцю на Падляшшы.

Некаторыя дакладчыкі ( сярод іх і прафесар, доктар генерал Станіслаў Акэнцкі ) з"ўляюцца нашчадкамі польскіх татараў. Тэматыка многіх дакладаў мела істотныя кампаненты, якія ўняслі значны уклад у вывучэнне рэлігійнай меншасці ў Польшчы. Гаварылася аб патрыятычнай пазіцыі польскіх татараў, якія удзельнічалі ва ўсіх народных паўстаннях. У час гэтага святкавання адной з вуліц у Саколцы дадзена назва ротмістра Аляксандра Ельяшэвіча, камандзіра татарскага эскадрона 13 палка віленскіх уланаў. Першага ліпеня удзельнікі урачыстасці, сярод якіх былі шматлікія нашчадкі татараў з усей Польшчы, наведалі мячэці і мізары ў Багоніках і Крушнянах. Былі адкрыты мемарыяльныя дошкі. Пра цікавасць да татарскай праблематыкі сведчыць напісанне некалькіх магістэрскіх прац, прызначаных польскім вызнаўцам Ісламу.

УМРА, малое паломніцтва. Абрад, які можна ажыццявіць у любую пару года. Найбольш пажаданыя месяцы Рамазан, Раджаб ці Зу-ль-Хіджа ( калі умра здзяйсняецца разам з хаджам ). Умры папярэднічае абрад прыняцця іхраму, пасля чаго паломнік уваходзіць на тэрыторыю ал-Масджыд ал-Харам, абыходзіць ал-Каабу ( гл. таваф ), моліцца, п"е ваду з Замзама і сем разоў перабягае паміж узгоркамі ас-Сафа і ал-Марва ( гл. сай ). Калі за умрай не наступае хадж, то палом ік выходзіць са стану іхраму.

УСЕПОЛЬСКІ З"ЕЗД ДЭЛЕГАТАЎ МУСУЛЬМАНСКІХ ДЖАМІЯТАЎ. Распачаўся 28.12.1925 у 12 гадзін у зале гімназіі імя Яхіма Лелявеля ў Вільні. Перад з"ездам служылі намаз у мясцовай мячэці. Імамам быў Ібрагім Смайкевіч. Прымалі ўдзел 58 дэлегатаў з усіх джаміятаў ( парафій ) Польшчы. Найбольш прадстаўнікоў было з Навагрудчыны, Слонімшчыны, горада Вільні і наваколля. Даволі шматлікая дэлегацыя прыехала з Варшавы. Запрошанымі на з"езд былі віленскі ваявода Альгерд Маліноўскі, супрацоўнік МЗС Ян Гжымала-Грабавецкі, прэзідэнт Вільні Вітальд Баньkоўскі, рэктар Віленскага універсітэта Мар"ян Здзяхоўскі, пракурор апеляцыйнага суда ў Вільні Станіслаў Плішчынскі, старшыня акруговага суда Антон Шчапкоўскі і

старшыня Віленскай філіі задзіночання польскіх літаратарау Чэслау Янкоускі.

З"езд адчыніу старшыня арганізацыйнага камітэта Адам Мурза-Мурзіч, які расказау пра мэту сустрэчы — выбары улад Мусульманскага рэлігійнага згуртавання у Польшчы. Прапанаваны склад прэзідыума быу выбраны адзінагалосна. Пасля гэтага слова узяу старшыня прэзідыума Аляксандр Ахматовіч. Ён нагадау пра вайсковую службу татарау, іх удзел у паустаннях за непадлегласць Польшчы у 19 ст., прывітау пры гэтым удзельніка Студзеньскага паустання 1863 года дэлегата Навагрудчыны Рамуальда Смольскага, якога прысутныя віталі гарачымі апладысментамі. Ахматовіч таксама нагадау пра апошнюю вайну, адзначыушы са скрухай, што не усе татары у выніку Рыжскай мірнай дамовы 1921 года аказаліся у межах польскай дзяржавы. Напрыканцы свайей прамовы ён сказау: "Сёння татарскі народ уступае у новую фазу свайей гісторыі. Дзякуючы Канстытуцыі 17 сакавіка 1921 года мае адкрыты шлях для развіцця адроджанай Рэчыпаспалітай Польшчы".

Ад імя польскага урада слова узяу віленскі ваявода Альгерд Маліноускі. Ён растлумачыу, чаму Усепольскі з"езд дэлегатау мусульманскіх джамііятау праводзіцца у Вільні. Вільня у 14 — 15 стагоддзях стала цэнтрам татарскага асадніцтва. Далей гаварыу пра супрацоуніцтва татарау з мясцовым насельніцтвам, пра удзел татарау у вайне 1919 — 1921 гадах, адзначыу вялікія заслугі перад дзяржавай прысутнага у зале генерала Аляксандра Рамановіча, дэлегата Віленскага джамііята. Рамановіча, падобна як і Смольскага, прысутныя віталі гарачымі апладысментамі. Далей у сваім слове Маліноускі нагадау пра заслугі прававедау Ахматовіча і Мурзы-Мурзіча у арганізацыі польскай судовай справы у Вільні і пра плённую дзейнасць прафесара Базарэускага у адраджэнні Віленскага універсітэта. У канцы прамовы ён сказау: "Звяртаючыся да вас як нашчадкау старадауніх татарау, якія зберaглі веру сваіх продкау, а праз гэта і сваю расавую самабытнасць — маю усе падставы сцвярджаць, што адносіны Рэчы Паспалітай да грамадзян магаметанскай веры будуць напоунены такой жа добразычлівасцю і добрай воляй, якой вызначалася у гістарычным мінулым у ходзе нашай агульнай гісторыі".

Далей былі выступленні прадстауніка МЗС Гжымалы-Грабавецкага, дэлегата Даубуцішскага джамііята Альгерда Крычыньскага, прэзідэнта Вільні — Банькоускага. У прамове Гржымалы- Грабавецкага

была фраза: "Патрабаванне, якое магаметанскае насельніцтва можа ставіць свайму муфтэю, гэта справядлівасць, бездакорнасць паводзін, а найбольш поўны давер магаметанаў і польскага ўрада. Аб гэтым даверы перш за ўсе павінна памятаць магаметанскае насельніцтва, аддаючы свае галасы за будучага муфтэя". Гэта фраза зрабіла дрэннае ўражанне на прысутных мусульман, якія адчулі падазронасць да іх і ўмяшанне дзяржаўных улад у вольны выбар іх найвышэйшага рэлігійнага кіраўніцтва.

Яшчэ 28 снежня, пасля перапынку на абед, дэлегаты прыступілі да выбараў муфтэя. На гэту вакансію былі тры кандыдатуры: доктар філасофскіх навук Якуб Шынкевіч ( у гэты час працаваў у Германіі), Адам Мурза-Мурзіч і Ібрагім Александровіч. Пасля першага тура галасавання ніхто не набраў патрэбнай колькасці галасоў. Мурза-Мурзіч адмовіўся ад спаборнічання, але дэлегаты высунулі кандыдатуру палкоўніка Якуба Рамановіча. І пасля трох тураў галасавання не прыйшлі да згоды, таму гэтае пытанне перанеслі на наступны дзень — 29 снежня.

Другі дзень з"езду распачаўся з таго, што старшыня прачытаў адозву да дэлегатаў, якую склалі імамы. Яны выказаліся за кандыдатуру Якуба Шынкевіча, якога лічылі найбольш адпаведным да гэтай пасады. У выніку галасавання быў выбраны Шынкевіч, а намеснікам муфтэя — Якуб Рамановіч.

Пасля заканчэння выбараў імам Смайкевіч прачытаў малітву і выказаў сваю радасць у сувязі з выбраннем муфтэя. У далейшым была створана камісія з юрыстаў, якая выпрацавала праект распараджэння дзяржаўных улад аб прызнанні Магаметанскага рэлігійнага згуртавання і статута гэтага згуртавання. У склад камісіі ўвайшлі Ахматовіч, Мурза-Мурзіч, Багдан Ахматовіч, Алі Пултаржыцкі і імам Варшаўскага джаміята Магамет Ваісаў ( паволжскі татарын ). Дэлегатам быў прадстаўлены тэкст статута Культурна-асветнага згуртавання. Старшыня прэзідыума заклікаў да арганізацыі мясцовых аддзелаў згуртаваня. З"езд завяршыўся ўрачыстым мусульманскім абедам.

## ЗАПРАШАЕМ НА КАНФЕРЭНЦЫЮ

26 сакавіка 1993 г. а 10 гадзіне у Менску у Доме літаратара ( вул.Фрунзе, д.5 ) пачне працаваць навуковая канферэнцыя. Тэма: Татары-мусульмане на землях Беларуска-Літоўскай дзяржавы ( Вялікае княства Літоўскае ). Да 600-годдзя татарскага асадніцтва, распачатага пры Вітаўце. Даклады будуць пра мусульманскую рэлігію, гісторыю, этнаграфію, адносіны з беларусамі, летувісамі, палякамі, гэбраямі, рускімі, мусульманамі былой Расіі, СССР, СНД і інш.

Прыняць удзел у гэтай першай у гісторыі беларускіх татараў канферэнцыі запрашаем беларусаў, рускіх, летувісаў, палякаў, гэбраяў, украінцаў, татараў паволжскіх, крымскіх, сібірскіх, нашчадкаў нашых татараў, якія жывуць у розных краінах, даследчыкаў татарскіх праблем з далёкага зарубежжа.

Выступленне дакладчыка не больш за 10 хвілін. Да 1.02.1993 г прышліце Вашы даклады. Аб"ём не больш за 150 радкоў машынапісу. Для дакладчыкаў, якія жывуць на Беларусі, просьба пісаць на беларускай мове.

Мяркуецца, што даклады будуць надрукаванны і удзельнікі канферэнцыі атрымаюць зборнік 26.03.1993.

У першы дзень канферэнцыі ( думаем, што яна працягнецца 2 дні ) будзе выстава працы архітэктараў — праект Менскай мячэці, карціны татар-мастакоў. Будуць у продажы розныя кнігі, часопісы і газеты.

Паведамляйце сваім знаёмым пра канферэнцыю, Прапануйце ім выступіць з дакладам, ці хоць прыйсці, паслухаць і паглядзець.

Удзельнікі канферэнцыі — іншагароднія і замежныя госці- будуць жыць у сем"ях татараў-менчукоў.

Завершыцца канферэнцыя канцэртам прафесійных і самадзейных артыстаў.

Даклады дасылайце на адрас: 220131, Менск, вул. Мірашнічэнкі, д.51, кв.312 Канапацкаму Ібрагіму Барысавічу

Тэлефоны: хатні 61-84-93, службовы 26-40-22

## МІЖНАРОДНЫ МУСУЛЬМАНСКІ ФОРУМ У МАСКВЕ

28 верасня — I кастрычніка гэтага года адбыўся Другі Міжнародны Мусульманскі Форум. Арганізатарамі яго былі Ісламскі універсітэт імама Мухаммеда ібн Сауда з Саудаўскай Аравіі і Ісламскі культурны цэнтр Расіі. У Форуме прынялі удзел вядомыя дзеячы мусульманскага свету з 150 краін, прадстаўнікі шматлікіх мусульманскіх абшчын з двух дзесяткаў краін свету і практычна з усіх краін Усходняй Еўропы, у тым ліку 5 чалавек з нашай Беларусі. Былі кіраўнікі і прадстаўнікі найбольшых мусульманскіх арганізацый і згуртаванняў, вучоныя-ісламаведы.

У час ранішніх і вячэрніх сустрэч на працягу ўсяго Форуму, тэмай якога выбрана мусульманская асвета, яе сучасны стан і перспектывы. Удзельнікі абмеркавалі шматлікія пытанні ісламскай асветы, праблемы, з якімі сутыкаюцца мусульманскія абшчыны Усходняй Еўропы і ўсяго свету; пытанні, звязаныя з развіццем Ісламу і азнаямленне народаў Усходняй Еўропы з дасягненнямі і духоўным вопытам ісламскай цывілізацыі.

Другі Міжнародны Мусульманскі Форум — важная падзея не толькі ў жыцці мусульман СНД, але і ў жыцці сусветнай цывілізацыі.

## ІСЛАМСКІ УНІВЕРСІТЭТ У СТАЛІЧНЫМ ГОРАДЗЕ ЭР-РЫЯД

Ісламскі універсітэт імама Мухаммеда ібн Сауда ў Каралеўстве Саудаўская Аравія заснаваны ў 1950 годзе. Універсітэт з"яўляецца адным з вядучых навуковых і адукацыйных цэнтраў мусульманскага свету. Асноўныя напрамкі дзейнасці тэта — даследаванні у галіне ісламскіх навук, ісламскай асветы і адукацыі ва ўсім свеце. Ва універсітэце II факультэтаў, на якіх чытаюць лекцыі вядомыя вучоныя, рэлігійныя дзеячы, вучоныя-ісламаведы.

Універсітэт мае 6 філіялаў — у ЗША, Японіі, Інданезіі, Маўрытаніі, Джыбуці. Плануецца адчыніць філіял у Маскве.

Універсітэт прымае удзел і арганізуе шматлікія канферэнцыі і сімпозіумы па праблемах Ісламу і ісламскай асветы.

## ТАТАРСКІ ЛЕТНІК У ПАДМАСКОЎІ

Ісламская партыя "Адраджэнне" арганізавала летнік для татарскіх юнакоў каля горада Троіцк ( за 15 км на паўднёвым захадзе ад Масквы, каля 30 тыс. жыхароў ) у маляўнічай мясцовасці, дзе блукае невялікая рэчка Дзясна — правы прыток Пахры ( бас. Масквы-ракі ). Адкрыццё было ў канцы чэрвеня. Адпачывала паўсотні хлопцаў з Татарстана, Беларусі ( сем чалавек ), Узбекістана, Украіны. Пабывалі на экскурсіі ў Маскве, наведалі саборную мячэць, любаваліся наваколлем Троіцка, займаліся спартыўнымі гульнямі. Галоўнае ж было — гэта цікавыя лекцыі па Ісламу, святой кнізе для мусульман — Кур"ану, аб жыцці прарокаў. Хто не ўмеў маліцца — навучыліся. Як і павінна, мы пяць разоў у суткі адпраўлялі намаз.

За час пражывання ў летніку мы пазнаёміліся і падружыліся, абмяняліся адрасамі. Вялікі дзякуй арганізатарам адпачынку, згуртаванню "Аль-Кітаб", бацькам, што адпусцілі мяне ў далёкую паездку.

## НЕЗАБЫЎНЫЯ ЎРАЖАННІ

У чэрвені гэтага года мне і маей сяброўцы Аміне Тамаргаевай пашчасціла прысутнічаць на міжнароднай татарскай канферэнцыі, якая праходзіла ў Сімферопалі. Вырашалася многа важных пытанняў, сярод якіх было аб пераходзе крымскататарскай пісьменнасці на лацінскую графіку.

Амаль усе выступленні былі на татарскай мове. І няхай мы не усё разумелі ( крымскататарская мова крыху адрозніваецца ад роднай нам казанскататарскай мовы ), але слухалі мы з вялікай цікавасцю, незвычайнай асалодай. Наша сяброўка Рыма Басьюні, для якой найпрыгажэйшай здаецца арабская мова, не аспрэчвала, што мяккія лёгкія гукі, якія пераходзяць у цвёрдыя і гарлавыя, гучалі для нас як музыка крымскіх татараў.

Выступленні ўдзельнікаў канферэнцыі былі рознымі. Тут і найважнейшыя праблемы вяртання на радзіму, тут і праблемы захавання і развіцця мовы, аб чым турбуюцца цюркологі з Фінляндыі і Скандынаўскага паўвострава. Адзначалася, што крымскія татары, будучы працавітымі і сумленнымі людзьмі, добра працуюць і неблага жывуць у тых аддаленых месцах, куды іх выслалі ў 1944 го-

дзе. Умовы жыцця цяжкія, жыць прыходзіцца ў палатках і буданах. Улады не аддаюць татарам будынкі іх бацькоў і дзядоў, не даюць зямлю, каб пабудаваць хату, пасадзіць сад, вінаграднік. Татары змагаюцца за святое права чалавека жыць на сваей роднай зямлі, а калі прыдзе час, то і быць пахаваным на зямлі сваіх дзядоў-прадзедаў.

Вялікая ўвага надаецца выхаванню падрастаючага пакалення, вывучэнню роднай мовы ў школах, садках.

Нішто так не хвалюе чалавека як музыка. Усхвалявала яна і нас, калі мы слухалі маладых выканаўцаў, якія данеслі да сэрца кожнага тую часцінку роднага, блізкага, якое жыло недзе ўнутры, а зараз ажыло, ускалыхнула ў кожнага з прысутных. Я не спецыяліст у галіне культуры, але усё ўбачанае і пачутае ўзрушыла мяне надзвычай. Асабліва глыбока кранулі нас песні бацькі з сынамі. Тут было такое сугучча, якое можа быць толькі ў блізкіх, родных людзей, прасякнутых адной думкай, адным жаданнем. Такое адзінства, відаць, і кранула татар пакінуць ужо абжытыя мясціны, прадаць за бясцэнак маёмасць і вярнуцца на радзіму продкаў. І я ганаруся тым, што агульным паходжаннем сваіх продкаў звязана з гэтым працавітым, добрым і таленавітым народам.

Некалькі слоў падзякі хочацца выказаць арганізатарам канферэнцыі. Адчувалася цеплыня і ўвага да кожнага з нас ва ўсім. Тут нас пазнаёмілі са стравамі татарскай нацыянальнай кухні. Асабліва мы ўдзячны Мустафе Джамілёву. Дзіву даешся, колькі ў гэтага чалавека энергіі і непахіснай веры ў лепшае прадвызначэнне свайго народа. Добрага здароўя жадаем Вам і Вашым блізкім.

Цікавымі былі і экскурсіі па выдатных мясцінах Крыма. Дзякуй і Шаукету Кайбулаеву, і яго маладым памочнікам. Колькі хвалявання прыйшлося ім пражыць, каб мы усе пачуваліся як дома.

Дзякуй усім, з кім прыйшлося пазнаёміцца. Можа з некаторымі ўжо і не здарыцца больш сустрэцца, але памяць пра іх застанецца. Удзячна я і згуртаванню "Аль-Кітаб" і нашым мусульманам-адзінаверцам з замежных краін за тое, што далі магчымасць пабываць на цудоўнай крымскай зямлі.

БЫЦЬ ПРАЎДЗІВЫМ — АБАВЯЗАК МУСУЛЬМАНІНА

Праўдзівасць з"яўляецца вельмі важнай рысай чалавечага характару. Калі заўсёды будзеш казаць праўду, пазбегнеш многіх клопатаў. Вось расказ пра нейкага чалавека, які зрабіў многа дрэнных учынкаў, але даў зарок казаць праўду і стрымаў слова.

Пэўнага дня да Мухаммеда ( мір яго душы ) прыйшоў чалавек і кажа: "Прарочa Божы, маю вельмі многа дрэнных звычак. Якой з іх мне найперш пазбыцца ?" Прарок ( мір яго душы ) адказаў: "Найперш пазбаўся махлярства і заўсёды гавары праўду". Мужчына даў зарок так зрабіць і пайшоў дамоў. Ноччу гэты чалавек меркаваў пайсці на крадзеж. Перад выхадам затрымаўся на імгненне і успомніў пра зарок, які даў Мухаммеду ( мір яго душы ).. "Калі заўтра Прарок ( мір яго душы ) спытае, дзе быў, што адкажу ? Ці скажу, што хадзіў красці ? Не, таго не магу сказаць. Але не змагу таксама схлусіць. Калі скажу праўду, усе мяне зненавідзяць і назавуць злодзеем. Пакараюць мяне за крадзеж".

І вось мужчына рашыў не красці у гэтую ноч і назаўсёды кінуў шкодную звычку.

У наступны дзень захацелася яму напіцца віна. Калі ўжо збіраўся распачаць, успомніў: "Што я павінен адказаць Прароку ( мір яго душы ), калі ён спытае мяне, што я рабіў на працягу дня ? Не магу схлусіць, але калі скажу праўду, зганьбяць мяне, бо мусульманіну нельга піць віна". І ён адмовіўся ад звычкі піць віно.

Такім чынам, калі мужчына надумаецца зрабіць нешта нядобрае, прыпамінае сабе зарок казаць праўду. Адну за другой кінуў свае дрэнныя звычкі і стаўся добрым мусульманінам, добрым чалавекам.

Калі будзеш заўсёды казаць праўду, будзеш добрым чалавекам, добрым мусульманінам, якога любіць Аллаг і аказвае сваю ласку. Калі Аллаг — наш Тварэц — будзе ўсцешаны, узнагародзіць нас Раем — мейсцам, дзе пануе шчасце і міласць.

Дай зарок: буду заўсёды казаць праўду !

# ЗАЛАТЫ ЯБЛЫК

( крымскатарaская казка )

У даўнія часы падзішах з далёкага царства прывёз яблыню, якая родзіць залатыя яблыкі, загадаў пасадзіць дрэўца ў садзе. Праз сем гадоў дрэва стала даваць плады, але толькі па адным яблыку ў год.
— Заўтра мы яго сарвём, — вырашыў уладар, але назаўтра яблык знік. У падышаха было трое сыноў. На наступны год, калі яблык паспеў, уладар паклікаў старэйшага сына і сказаў яму: "Сын мой, бяры найлепшую зброю, сядай на каня, едзь у сад і пільнуй залаты яблык, каб яго зноў не ўкралі. Пачуўшы тыя словы сын падзішаха ўзброіўся, сеў на каня і паехаў у сад. Праз усю ноч круціўся ён вакол яблыні, глядзеў на яе, але на золаку зморыў яго сон. Калі ж расплюшчыў вочы — яблык знік. Што рабіць ? З панураной галавой вярнуўся дамоў і расказаў бацьку пра тое, што здарылася. Бацька моцна ўгневаўся.
На другі год, калі надышоў час саспець яблыку, другі сын з найлепшай зброяй сеў на каня і паехаў у сад.
"Каб сарваць яблык злодзей павінен залезці на дрэва, — падумаў сын уладара. — Каб яму перашкодзіць, ён аперазаў дрэва цёрнам з вострымі калючкамі і вакол яблыні таксама нацярушыў калючак, а сам лёг і заснуў. Калі ж прачнуўся ўранку, то ўбачыў, што калючкі засталіся некранутымі, а залаты яблык знік. І сярэдні сын, нізка панурыўшы галаву, вярнуўся дамоў. Падзішах моцна ўгневаўся і сказаў:
— Не змаглі зберагчы нават адзін яблык.
Прайшоў яшчэ год. Уладар сказаў, што цяпер ён павінен паслаць вернага чалавека, каб сцерагчы яблык. Але самы малодшы сын сказаў:
— Не, бацька, цяпер я пайду сцерагчы яблык.
На гэта падзішах адказаў:
— Не, сыне, старэйшыя браты не змаглі ўсцерагчы, а ты яшчэ зусім малады. Ужо колькі гадоў крадуць залаты яблык, і таму я павінен паслаць больш вопытнага воя, каб і на гэты раз каштоўны плод не знік.
На гэта сын адказаў:
— Ты, бацька, казаў, што мяне моцна любіш, але гэта не так. Калі ты сапраўды любіш, то чаму не хочаш паслаць мяне па залаты яблык ?
І сапраўды, падзішах больш за старэйшых любіў меншага сына.
— Ну што ж, — сказаў, — ідзі і ты, сын, вартаваць яблык, а калі

не зможаш упільнаваць, вяртайся дамоў. І так, напэўна, згубім яблык і сёлета.

У пэўны час малодшы сын уладара ўзброіўся, сеў на каня і паехаў у сад. Вартаваў пры яблыні ўсю ноч, але перад світаннем стаў марыць яго сон. Тады, каб не заснуць, ён дастаў меч, парэзаў сабе палец, а рану пасыпаў соллю, каб моцны боль не дазволіў яму хоць на хвіліну заснуць. А калі наблізіўся ранак, ён проста не зводзіў вачэй з яблыні.

І раптам над дрэвам з"явілася хмара, а з яе высунулася рука і сарвала яблык. Юнак стрэліў з лука. І, відаць, параніў руку, бо пацякла кроў. Юнак пайшоў па крывавым следзе.

Тым часам сонца ўжо ўзнялося, а малодшы брат не вяртаўся дамоў. Старэйшыя браты селі на коней і паімчаліся за малодшым. Пад яблыняй яны ўбачылі кроў, і паехалі па следзе. Нарэшце, яны знайшлі брата. Той, калі іх убачыў, сказаў:

-- Навошта вы прыехалі, вяртайцеся ! Я параніў ворага і наганю яго. Я сам управлюся, а вы заварочвайце коней.

Братам стала сорамна, хоць яны і старэйшыя, не змаглі выканаць даручэння, а таму не хацелі вяртацца дамоў.

— Не, — адказалі, — мы павінны быць з табою, дапамагаць табе. І паехалі далей з малодшым братам.

Пад вечар крывавы след прывеў іх да глыбокай студні. Тады малодшы брат сказаў старэйшым:

— Я застануся тут вартаваць, а вы знайдзіце вяроўку даўжынёй не меней за 20 сажняў.

Браты пайшлі і вярнуліся з вяроўкай патрэбнай даўжыні. Старэйшы брат аперазаўся вяроўкай і сказаў, каб яго апускалі ў студню. Так і зрабілі. Калі ж ён спусціўся да сярэдзіны, то пачаў прасіць, каб яго выцягнулі назад, бо ў студні вельмі горача. Браты выцягнулі яго. Тады сярэдні брат пачаў спускацца ў студню, але і ён неўзабаве стаў прасіць, каб яго выцягнулі, бо ён не можа вытрымаць гарачыні. Тады найменшы брат аперазаўся і папрасіў:

— Магчыма, я таксама буду крычаць са страху, але вы не звяртайце ўвагі. Спускайце мяне на дно і чакайце мяне тут.

Пасля гэтых слоў малодшы брат апусціўся ў студню. Скора, калі ўжо канчалася вяроўка, юнак адчуў пад нагамі зямлю. Убачыў, што знаходзіцца каля вялікай пячоры, у якую можна ўвайсці высокай брамай. Адчыніў яе і ўвайшоў. Тут ён убачыў прыгожую дзяўчыну, якая сядзела і вышывала, спытаў яе:

--Дзе мой вораг ?

Дзяўчына адказала:

-- Не ведаю, спытай пра гэта маю сястру. Ідзі далей і знойдзеш яе ў пакоі.

Пайшоў ён далей і знайшоў пакой. У ім прыгожая дзяўчына забаўлялася залатым яблыкам.

— Дзе мой вораг ? — спытаў юнак.

— Не ведаю, — адказала дзяўчына, -- калі пра гэта хто і ведае, то толькі мая малодшая сястра. Яе і спытай. Яна ў другім пакоі.

Юнак знайшоў патрэбны пакой. Там ён убачыў прыгожую дзяўчыну, якая таксама забаўлялася залатым яблыкам. І ён зноў спытаў:

— Дзе мой вораг ?

Убачыўшы яго, дзяўчына вельмі здзівілася:

-- Якім чынам ты тут апынуўся ? Гэта ж царства трохгаловага джына! Ён толькі што вярнуўся паранены і цяпер спіць. Скора прачнецца і падзярэ цябе на кавалкі. Уцякай адсюль ! Мы усе сёстры. Джын схапіў нас і трымае ў няволі. Аллагам прашу, выходзь, інакш загінеш. Яго забіць вельмі цяжка. Калі б мог яго хто пасекчы на сорак кавалкаў, то і тады б яшчэ не згінуў. Ажыў бы зноў.

На гэта юнак адказаў:

— Прыгажуня, прашу цябе, дапамажы мне. Я яго заб"ю і вас вызвалю. Ідзі да яго і пачні горка плакаць. Ён спытае, чаму плачыш. Тады адкажы, што прадчуваеш — нехта прыдзе і заб"е яго, а ты ніяк не можаш жыць без яго. Тады ён павінен раскрыць перад табою таямніцу свацей неўміручасці.

Дзяўчына так і зрабіла. Пайшла і убачыла, што джын ужо не спіць і пацягваецца. Падыйшла бліжэй і пачала плакаць. Убачыўшы такое, ён спытаў:

— Што здарылася, прыгажуня мая ?

Дзяўчына адказала:

— У апошні час у маім сэрцы неспакой, прадчуваю, што хто-небудзь можа прыйсці і забіць цябе. Як жа я буду без цябе ?

Джын адказаў:

— Не сумуй. Няма такой сілы, якая змагла б мяне знішчыць, бо я не нашу пры сабе душу. Гэтую таямніцу толькі табе даверу, але нікому не кажы пра яе. Мая душа у аблічча галуба знаходзіцца у пакоі ў канцы пячоры, усярэдзіне скрынкі з адтулінамі. Калі б хто адсек галаву

у галуба, тады б я памёр. Але хто гэта зможа зрабіць ? У пячору ніхто не можа ўвайсці. Няма пра што сумаваць. Жыві сабе і далей, як да гэтай пары. Я буду даваць табе ўсё, чаго пажадаеш.

Дзяўчына вярнулася да юнака і расказала яму пра ўсё. Малодшы сын падзішаха знайшоў пакой у канцы пячоры, увайшоў у яго, разламаў скрынку і адсек галаву галубу, які там сядзеў. Агідны джын здох у сваім логвішчы. Тады юнак, не марнуючы часу, прывёў дзяўчат да студні. Спачатку абвязаў вяроўкаю старэйшаю сястру і крыкнуў старэйшаму брату:

— Цягні ! Дзяўчына прызначана табе !

Тое самае зрабіў з сярэдняй сястрой і звярнуўся да сярэдняга брата:

— Вось твая, цягні !

Нарэшце, калі прывязаў малодшую сястру, пачуў ад яе:

— Спачатку выбірайся сам, а мяне выцягнеш пасля. Як убачаць мяне твае браты, не захочуцца ім выцягваць цябе з гэтай пячоры.

Юнак адказаў:

— Як жа так ! Яны мае родныя браты і не могуць так зрабіць !

Моцна прывязаў дзяўчыну і крыкнуў: "Гэтая прызначана мне !"

Старэйшыя браты выцягнулі яе са студні, але, убачыўшы цудоўную прыгажосць, знямелі. Затым вырашылі не выцягваць малодшага брата, каб ён мог бы расказаць бацьку пра свае падзвігі Яны дамовіліся сказаць бацьку, што знайшлі ворага і ў бойцы з ім малодшы загінуў. Сёстрам таксама загадалі гаварыць тое ж. Пакінуўшы брата ў студні, вярнуліся дамоў. Бацька спытаў, дзе яго малодшы сын ? На гэта браты, быццам у вялікім гэры, адказалі, што залатыя яблыкі краў трохгаловы агідны джын, з якім яны ўтрох біліся. Малодшы загінуў у бойцы, а яны забілі пачвару, вызвалілі трох сясцёр, якіх джын трымаў у сваей пячоры. Падзішах вельмі бедаваў з прычыны смерці свайго малодшага сына і надзеў жалобнае ўбранне.

Тым часам малодшы брат, нічога не падазраючы, цярпліва чакаў, пакуль спусціцца вяроўка, але не дачакаўся. Тады зразумеў, што яго дзяўчына мела рацыю. Чаму ён яе не паслухаў ? Вярнуўся ў пячору, адчыніў браму і убачыў сівабародага старога, які чысціў варанога каня. Стары здзівіўся і спытаў:

— Сынок, як жа ты сюды ўвайшоў, гэта ж пячора агіднага джына. Калі ён цябе ўбачыць, адразу падзярэ на шматкі.

Юнак з усмешкай адказаў:

-- Я забіў джына, вызваліў траіх сясцёр з няволі, а сам не магу выйсці з пячоры. Чакаю ад цябе дапамогі. Ці ёсць тут другі выхад апроч студні ?
Стары сказаў:
-- Пра гэта можа ведаць толькі самы малодшы. Нас тут трое братоў. Малодшы хадзіў некалькі разоў з джынам на паляванне. У пакоі побач жыве мой малодшы брат. Ідзі да яго і спытай, ён табе пакажа пакой самага малодшага.
Юнак увайшоў у суседні пакой, у якім убачыў барадатага мужчыну, які чысціў каня ў срэбнай збруі. Ён таксама здзівіўся, як убачыў юнака. Ён узрадаваўся, як даведаўся, што джын забіты. Без ваганняў паказаў дарогу да самага малодшага брата, які ў гэты час таксама чысціў каня, убранага ў залатую збрую.
Юнак павітаўся і расказаў пра ўсё, што адбылося. Малодшы барадаты конюх вельмі ўзрадаваўся.
— Я ведаю, як адсюль выбрацца, — прамовіў. Паклічу старэйшых братоў і мы разам выйдзем з пячоры.
Браты-конюхі былі вельмі радыя, цалавалі юнака, кажучы:
— Сынок, ты нам зрабіў вельмі вялікую паслугу, вызваліўшы нас з няволі. Хочам табе аддзячыць, толькі скажы, чаго хочаш. Мы усё можам, бо мы добрыя духі, ператвораныя у людзей.
Юнак сказаў, што цяпер яму нічога не трэба.
— Калі так, — сказалі браты, — тады кожны з нас дасць табе па аднаму валаску з барады. Калі ў цябе будзе патрэба і захочаш пакліканць каго-небудзь з нас на дапамогу, то спалі адпаведны валасок і выкліканы з"явіцца перад табою і выканае кожнае твае жаданне.
Юнак схаваў валаскі, развітаўся і пайшоў у горад. Па дарозе ён сустрэўся з пастухом. А таму, што прагаладаўся, то даў пастуху срэбную манету, каб той зарэзаў ягня і накарміў яго. Пастух зарэзаў ягня, а юнак зрабіў з аўчынкі галаўны ўбор, які нагадваў натуральны прычоску з лысінай. Затым аддаў пастуху сваю добрую вопратку, а сам апрануўся ў паношанае пастуховае адзенне. Цяпер яго ўжо было не пазнаць. Юнак пайшоў у горад.

Доўга ён так хадзіў, шукаючы сабе працу. Ніхто не хацеў яго браць, бо ён выглядаў жабраком. Нарэшце адзін стары каваль злітаваўся над ім і прыняў у кузню раздзімаць мяхі.
Неўзабаве па вуліцах горада прайшоў вяшчальнік і паведаміў, што

скора адбудзецца вяселле старэйшага сына падзішаха і што з гэтай нагоды ўсе жыхары павінны прыйсці на гарадскую плошчу. У бліжэйшую пятніцу стары каваль надзеў сваю найлепшую вопратку і сказаў свайму работніку:

— Хлопча, пойдзем разам на плошчу і паглядзім на царскае вяселле.

— Не, дзядзечка, — адказаў работнік, — мая вопратка не падыходзіць. Сам жа я лысы, людзі будуць смяяцца з мяне. Ідзіце самі, а пасля раскажаце, што там бачылі і станецца так, як быццам і я там быў.

Стары каваль пайшоў, а юнак пабег на гарадскую ўскраіну, дастаў і спаліў валасок з барады сівога конюха, які ў пячоры даглядаў варанога каня. У тую ж хвіліну перад ім з"явіўся стары і спытаў, якое ў яго жаданне.

— Хачу мець таго варанога каня, добрае адзенне і зброю, — адказаў.

— Зараз, — прамовіў стары і знік. Неўзабаве пажаданне было выканана. Юнак пераапрануўся ў прыгожую вопратку, сеў на каня і паехаў на гарадскую плошчу. Тут, згодна звычаю, пасадзілі маладую на высокае крэсла, а малады сеў на каня і, паказваючы на маладую, пракрычаў:

— Эй, людзі, я з гэтай маладой збіраюся пабрацца шлюбам. Калі хто-небудзь мае штосьці супроць гэтага, няхай выйдзе на плошчу змагацца са мною.

Як толькі прагучалі гэтыя словы, выступіў збройны юнак на вараным кані. Усе здранцвелі ад нечаканасці. Жаніх пусціў у яго стралу, але той ухіліўся. Цяпер прыйшла чарга юнака. Ён таксама пусціў стралу ў старэйшага сына падзішаха і параніў так, што той асунуўся з каня. Праз імгненне юнак знік з вачэй. Адзенне, рыштунак і каня аддаў стараму, а сам пераапрануўся ў брудныя адзенне і вярнуўся ў кузню. Неўзабаве прыехаў каваль і кажа:

— Эй, хлопча, сёння адбылося нешта неверагоднае. Каб ты толькі пабачыў !

— А што такое, дзядзька ? — спытаў памочнік каваля.

Стары кажа:

— Да гэтага часу ніхто не асмельваўся выступіць супроць сына падзішаха, а сёння нейкі смяльчак на вараным кані памераўся сіламі са старэйшым сынам падзішаха. Калі б ён быў бліжэй, то забіў бы, а так толькі параніў яго. А сам імгненна знік.

Вяселле старэйшага з братоў цягнулася сем дзён. Праз тыдзень зноў вяшчальнік падзішаха выйшаў на вуліцу і абвясціў, што ў бліжэйшую

пятніцу другі сын уладара будзе жаніцца і усе жыхары павінны прыйсці на вяселле.

Настала пятніца і уладар падумаў, што незнаёмы вершнік можа зноў з"явіцца, таму загадаў усю плошчу акружыць воямі так, каб яны змаглі пераняць смельчака.

Каваль і на гэты раз угаворваў памочніка пайсці разам з ім на плошчу, бо невядомы юнак можа зноў з"явіцца. Але бедны памочнік не пайшоў на плошчу, а адправіўся на ўскраіну і спаліў валасок з барады конюха, які даглядаў каня, упрыгожана срэбнай збруяй. Стары хутка з"явіўся. Юнак папрасіў каня, добрую вопратку і рыштунак. Усё гэта атрымаў. Пераапрануўся, ускочыў на каня і паімчаў, але затрымаўся на невялікай адлегласці ад плошчы, дзе і схаваўся. Сярэдні сын падзішаха вельмі няўпэўнена наблізаўся да плошчы.

— Я вазьму шлюб з гэтай дзяўчынай, — абвясціў, — калі ж яшчэ каму-небудзь яна падабаецца, то няхай паспрабуе выклікаць мяне на бой.

Пачуўшы гэта, юнак узднбіў каня і імгненна пераскочыў цераз галовы вояў, якія акружылі плошчу. Тут вершнік стаў перад сярэднім братам. Той, убачыўшы працўніка, пусціў стралу, але юнак ухіліўся. Сам жа юнак дакладна пацэліў у жаніха, які ссунуўся з каня на зямлю. Вершнік маланкай ірвануўся з плошчы і вої падзішаха толькі пыл убачылі з-пад капытоў імклівага каня. Аддаўшы каня са срэбнай збруяй, вопратку, зброю ён вярнуўся у кузню.

Вярнуўшыся з горада каваль расказваў:

— Ну, хлопча, сёння зноў быў вершнік на кані з срэбнай збруяй, якая так блішчэла, што сляпіла вочы. Стрэліў ён з лука і параніў сына падзішаха, а сам знік і вої не змаглі яго схапіць.

Нарэшце прыйшла чарга на трэцяю сястру. Яна была заручана з сынам уладара суседняй дзяржавы. Калі ужо быў прызначаны дзень для вяселля, вяшчальнік і на гэты раз выйшаў на вуліцы і зычным голасам склікаў людзей на вяселле.

Пра тое, што два разы зрабіў на вяселлі невядомы смяльчак, ведалі усе людзі у гэтым царстве. Таму сабраўся такі тлум, што не мог змясціцца на вялікай плошчы.

Стары каваль звярнуўся да свайго памочніка:

— Эй, хлопча, гэта ужо апошняе вяселле у падзішаха. Хадзем са мной паглядзець на урачыстасць, бо можа зноў з"явіцца той смелы юнак.

— Не, дзядзька, я не пайду. Ідзіце самі, пасля раскажыце мне, калі вернецеся, і будзе усё так, быццам я сам быў там.

Каваль пайшоў, а памочнік накіраваўся за горад. Выклікаў конюха, які даглядаў каня пад залатой папонай, і папрасіў сабе каня, адзенне і рыштунак. Атрымаўшы ўсё, чаго хацеў, паскакаў у горад. Плошча была абкружана воямі ў тры рады.

Дзяўчыну пасадзілі на такім узвышэнні, што кожны мог яе ўбачыць. Жаніх прыехаў на кані і, паказваючы на маладую, абвясціў, што калі хто хоча яе ўзяць за жонку, то няхай выйдзе на бой. Былы памочнік каваля, малодшы сын падзішаха, прышпорыўшы свайго каня, узвіўся над галовамі вояў і апынуўся ў цэнтры плошчы. Жаніх пусціў у яго стралу, але юнак схаваўся пад канём. Вокамгненна ён ужо зноў быў у сядле і так моцна пусціў стралу у жаніха, што прашыў яго наскрозь. Воі, якія акружылі плошчу, ужо хацелі схапіць вершніка, які сядзеў на кані, пакрытым залатой папонай, але ён сам спешыўся і падышоў да падзішаха, стаў перад ім на калені, нахіліў галаву і пацалаваў руку. Бацька пазнаў сына, прыгарнуў да грудзей і узрадавана сказаў:

— Сын, твае старэйшыя браты казалі, што ты загінуў ад рукі ворага у пячоры, але ты, як бачу, жывы і цэлы !

Сын сказаў:

— Я здаровы, бацька. Гэта я спачатку параніў джына, а затым яго забіў і вызваліў траіх сясцёр. Браты прыгаварылі мяне да смерці ў пячоры, а прызначаную мне дзяўчыну забралі. Менавіта яна сёння павінна была стаць жонкай другога, таму я і забіў жаніха. Хачу ўзяць шлюб з гэтай дзяўчынай, бо я яе моцна кахаю.

Падзішах угневаўся на старшых сыноў за крыўду, якую яны зрабілі малодшаму брату, і вырашыў іх страціць. Але з гэтым не згадзіўся малодшы сын.

— Не, тата, — сказаў, — яны твае сыны і мае браты, таму не загадвай іх забіваць. Іх віна вельмі вялікая, гэта праўда, але якая будзе карысць таб і царству ад таго, што яны памруць ? Не тата, няхай у тваім царстве не будзе смяротнай страты для людзей.

Бацька задумаўся.

— Якое тваё жаданне ? — спытаў.

— Маё жаданне — узяць шлюб з любай, — адказаў юнак.

У той жа дзень справілі вяселле малодшага сына падзішаха. І было яно гучным і вясёлым.

## БЕЛАРУСКА-КРЫМСКАТАТАРСКІ СЛОЎНІК

### 1100 слоў і сказаў ад дзядзькі Ісмаіла Меметава

| | |
|---|---|
| знаёмы | таныш |
| знайсці | тапмакъ |
| знаходзіцца | болынмакъ |
| знаць, ведаць | бильмек |
| значны | белли ( корумли ) |
| значыць | демек |
| зноў | янъыдан ( кене ) |
| зняць | тюшурмек |
| золата | алтын |
| з-пад | тюбуньден |
| зрабіць | япмакъ ( ясмакъ ) |
| зразумець | анъламакъ |
| зроблены | ясалгъан ( азирлеген ) |
| зуб | тиш |
| зусім | такъым ( бутунъ ) |
| ЗША | АШБ |
| зялёны | ешиль |
| зямля | ер ( топракъ ) |
| з"явіцца | кельмек |
| з"яуляцца | бармакъ ( кельмек ) |
| і | ве |
| іграць ( йграць ) | ойнамакъ ( чалмакъ ) |
| імя, імёны | ад, адалар |
| інжынер | инженер |
| інстытут | институт |
| іншы, другі | башкъа |
| ісці | кетмек |
| кабыла | байтал |
| каза | эчки |
| казаць | айтмакъ |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| казёл | теке |
| калгас | колхоз |
| калгаснік | колхозджы |
| калгасны | колхозны |
| калектыў | бирлик ( топ ) |
| калі | не заман ( не вакъыт ) |
| каля ( блізка ) | якъын ( оны янында ) |
| калядны | паска байрамы |
| камандзір | баш ( он башы— к-р аддзялення) ( юз башы — к-р сотні ) |
| камар | чыркий |
| камбінат | комбинат |
| камень | таш |
| камісія | комиссия |
| камітэт | комитет |
| камуніст | коммунист |
| камуністычны | коммунистик |
| канец | сонъы |
| капа́ ( 60 снапоў ) | алтмыш |
| карміць | ашатмакъ |
| карміць дзіця ( саіць ) | эмизмек |
| карова | сыгъыр |
| кароткі | къыскъа |
| каса ( касіць ) | чалгъы |
| кастрычнік | октябрь |
| каток ( малы кот ) | мшычыкъ |
| каторы | къайсы ( аньыги ) |
| кватэра | хане |
| кветка | чичечик |
| кіламетр | километр |
| кінуцца | атылмакъ |
| кінуць | атмакъ |
| кірунак | тараф |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| кіраунік | ел башы |
| клас | сныф |
| класць | къоймакъ |
| клопат | раатсызлыкъ |
| клуб ( установа ) | тешкилят |
| кніга | китаб ( китап ) |
| кожны | эркез |
| кола | копчек |
| колькі | къач |
| конік ( ад конь ) | атчыкъ |
| конь | ат |
| кот | мышыкъ |
| краіна | мемлекет |
| край ( адм. адзінка ) | ульке |
| красны ( прыгожы ) | къызыл ( къырмызы ) |
| крок | адым |
| кроў | къан |
| крыкнуць | къычырмакъ |
| крыху | азчыкъ, аз-маз |
| крычаць | къычырмакъ |
| ксёндз | ксендз |
| куды | къайда |
| культура | меденият |
| культурны | медени |
| кума | балдыз |
| купіць | сатын алмакъ |
| курыца | тавукъ |
| куст | тюп |
| лавіць | тутмакъ |
| лапка | шамарчыкъ, аячыкъ |
| ласка | назламакъ |
| лаўка ( лава ) | скемле |
| легчы | ятмак |
| ледзь | зорнен |

| беларускае слова | крымскататарскае слова |
|---|---|
| лезці | чыкъмакъ |
| лепш | якъшы ( гузель ) |
| лешы | якъшы ( гузель ) |
| лес | тав |
| лета | яз |
| лік | ракъам |
| лінія | сызыкъ |
| літаратура | эдебият |
| ліха, бяда | атик |
| ліхі | атик |
| лічыць | саймакъ |
| луг | ешиль мейдан |
| любіць | севмек |
| людзі | адамлар |
| люлі ( выкл. ой люлі ) | ай-нени |
| ля, каля | около |
| ляжаць | ятмакъ |
| ляцець | учмакъ |

На дне цярпення жоутае золата.
Сабырны тюби — сары алтын.

Абяцаная шапка вушэй не грэе.
Ишанылгъан къалпакъ къулакъ къыздырмаз.

Ад астрогу няма перасцярогу.
Аписке тюшмем деме.

Адзін раз зманеш — другі не паверадь.
Бир кере алдатсанъ — экинджи сефер санъа инанмазлар.

Адна галавешка і у печы не гарыць.
Кисев тек бир олса — оджакъта янмаз.

Адзенецца, як пава, але благая слава.
Урбасы дженнет къушына бенъзей, а намы яман.

## У НАС У ГАСЦЯХ

### беларускі публіцыст і паэт Яўген Гучок

Чытачы "Байрама" звярнулі ўвагу на вельмі востры і змястоўны артыкул Я.Гучка, надрукаваны ў 26-м нумары "ЛіМ"а напрыканцы чэрвеня гэтага года. Адзначаючы нахабнасць ваяўнічых рускаязычнікаў ( тэрмін Я.Г. ) ён слушна паказаў іх шкодную дзейнасць як у нас на Беларусі, так і на абшарах іншых рэгіёнаў былога СССР. У 1944 годзе за адны суткі былі выселены крымскія татары са сваей радзімы. Гэта было вялікае злачынства ўлад. Але цяпер, калі прайшло столькі часу, а людзям не даюць мажлівасці вярнуцца на родную зямлю, то ці намнога сёняшнія уладары адрозніваюцца ад Сталіна ?

Тут мы друкуем 2 вершы, якія перадаў Я.Гучок

* * *

Мы,
што сёння за рэферэндум,
Былі знішчаны ў Курапатах:
Нас жыцця пазбаўлялі яжовы і бэнды,
Як і ўсе камуняцкія каты.

Але ж мы ажываем, але ж мы ўздымаемся,
Каб уліцца ў сям"ю чалавецтва...
Хоць патроху, а вызваляемся
Ад крамлёўскага ад калецтва.

Толькі ж гэта не проста даецца,
Бо на кожным на кроку — яны:
І свае, і чужыя беларусажэрцы —
Служкі ка́таў і сатаны.

А таму непахісна за рэферэндум
Уздымайма свае мы ду́шы,
каб ад сёння яжовым і бэндам
Не была Беларусь паслушна.

---

Ахрышчоны ў праваслаўі,
Наспяшаюся ў мячэць,
Калі моваю Прадславы
Будзе там мулла гучэць.

# ТАТАРСКАЯ НАРОДНАЯ ПЕСНЯ

## ЭТНЭ КӨЕ

## НАПЕЎ ВЁСКІ АТНЯ

Павольна 𝅗𝅥 = 69

Шу-шы көйне ма-тур и-теп Эйтэлэр Эт нэ-лэр

дэ. Ү-зэк-лэ-рэм не ө-зэ-лэр И се мнең, эй-

тэ лэр дэ.

Шушы көйне матур итеп
Эйтэлэр Этнэлэрдэ.

Үзэклэремне өзэлэр } 2
Исемең эйтэлэр дэ.

Иртэ торсаң монсу була
Этнэ су буйларында.

Югалган чэчэгем кебек } 2
Син генэ уйларымда.

Гэты напеў вельмі мілагучны,
Ён з вёскі Атня.

Сэрца маё разрываецца
ад хвалявання } 2
Калі называюць тваё імя

Ранкамі бывае тужліва
На берагах ракі Атня.

Як кветка-незабудка
Толькі ты ў маіх } 2
думках.

## З ТАТАРСКАЙ КУХНІ

Татарскі рулет ( катлама з мясам ). Для прыгатавання рулету бяруць ялавічыну і прэснае цеста. Цеста замясіць на падсоленым малацэ, у якое папярэдне дадаюць яйкі і масла. Цеста раскачваюць таксама, як і для локшыны, рэжуць стужкамі даужынёй 15 і шырынёй 10 см. Бяруць дробна парэзаную ялавічыну, дадаюць парэзаную цыбулю, перац і соль, усе перамешваюць, прапускаюць праз мясарубку, дадаюць крыху малака ці ахаладжанага кіпеню і перамешваюць лыжкай ці рукамі.

Прыгатаваную начынку кладуць слоем таўшчынёй крыху меней за 1 см на ленту цеста і загортваюць. Гатовы рулет кладуць на сіта на каструлю, у якой кіпіць вада. Вада не павінна дакранацца сіта, якое накрываецца. Так рулет варыцца парай. Затым ахаладжаны рулет наразаюць кольцамі таўшчынёй 2 см, заліваюць распушчаным маслам і падаюць на стол.

Норма прадуктаў на 10 чалавек: 1,2 — 1,5 кг цеста, 1 — 1,2 кг ялавічыны, 0,5 л малака, 2 — 3 яйкі, 150 — 200 г цыбулі, 100 — 150 г масла, соль, перац.

Рысавая каша. Рыс прамыць, пакласці у кіпень і варыць на працягу 5 — 8 хвілін. Затым адкінуць на сітца ці друшляк, адцадзіць, пакласці у запаранае малако і варыць 15 хвілін. Як каша пачне згушчацца, дадаць соль і цукар, шчыльна накрыць і варыць на слабым агні 20 — 30 хвілін.

На 1 шклянку рысу бяруць: 4 шклянкі малака, 1 сталовую лыжку цукру, масла.

Кампот з яблыкаў і сліў. Наліць у каструлю вады, усыпаць цукар і заварыць. У кіпень пакласці прамытыя, ачышчаныя ад зярнят і парэзаныя яблыкі і варыць 10 хвілін, пасля чаго дадаць ачышчаныя ад костачак слівы і варыць яшчэ 4 — 5 хвілін.

Норма прадуктаў на 10 чалавек: 7 — 8 шклянак вады, 400 г яблык, 300 г сліў, 300 г цукру.

## ПОШТА "БАЙРАМА"

З Гарадзеншчыны Уладзімір Прыхач

" ... Бываючы у незнаёмых мясцінах цікаулюся не толькі краявідамі, помнікамі гісторыі і архітэктуры, але і могілкамі. Аглядаючы Ардашоускі мізар, я звярнуу увагу на тое, што на надмагільных камянях па-рознаму выбіты зорка і паумесяц, ды і зорка то 5-прамянёвая, то 6-прамянёвая, а то і васьміпрамянёвая. Чым гэта можна растлумачыць? Можа розніца у тым, што пахаваны мужчына ці жанчына, малады ці пажылы ? Каб зрабіць такую выснову, трэба было бы мець больш матэрыял. Можа хто з татар адкажа ?

З Ляхавічау

" Да вайны у Вільні друкаваліся мусульманскія календары. Можна было паглядзець і пра любы дзень сказаць, якая дата па-мусульманску, калі гадавое свята. Ці не пара і "Аль-Кітабу" выдаць такі калядар ?

З Гародні Юсуф Крыніцкі

" Мінулым летам гасцявау у радні у Злучаных Штатах, сустракауся з татарамі, якія раней жылі у Польшчы. Яны перадалі мне, што муфтэй Рэчыпаспалітай Польшчы Якуб Шынкевіч, які пасля вайны жыу у Злучаных Штатах, выказвау сваю мару быць пахаваным на радзіме. Ідэю амерыканскіх татарау перавезці астанкі муфтэя і пахаваць яго у Менску ( у маладосці Якуб жыу і вучыуся тут у рэальным вучылішчы ) падтрымалі гарадзенскія татары.
Прашу Згуртаванне татарау-мусульман "Аль-Кітаб" і абшчыну менскіх татарау-мусульман абмеркаваць гэту праблему."

З Беластока Ян Сабалеускі

" ... Пытанне удзелу польскіх татарау-навукоуцау у выданні энцыклапедычнага даведніка "Татары Беларусі, Літвы і Польшчы" разгледжана Калегіяй Мусульманскага Рэлігійнага Згуртавання. Пауныя мусульманскія структуры і навукоуцы прымуць удзел у гэтай справе".

# З М Е С Т